АЛЁСЬ РАЗАНАЎ

# ШЛЯХ-360

*Паэмы і вершы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

Пад рэдакцыяй
УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Рэцэнзенты:
У. М. КОНАН,
А. С. МАЙХРОВІЧ,
І. С. ШПАКОЎСКІ

Р $\frac{70403-112}{М\ 302(05)-81}$ без аб'явы 4702120200

## ТЫ, СОНЦА, СВЯЦІ, ТЫ, ЛІСТОК, ЗЕЛЯНЕЙ...

У 1958 годзе ў Маскве выйшлі «Вершы» французскага паэта-камуніста Поля Элюара. У прадмове да кнігі Ілья Эрэнбург пісаў: «Конечно, стихи Элюара порой трудны для чтения... Элюар, особенно в конце двадцатых годов, доходил до такой сжатости, что некоторые строки, эмоционально трогая, представляются загадочными. Как многие другие поэты Франции, Элюар последовал примеру Гийома Аполлинера и отказался в стихах от знаков препинания... Это в свою очередь затрудняет чтение его книг. Поэзия Элюара отличается наготой, прозрачностью. Образы, пафос, риторика, разумеется, воспринимаются легче. Лермонтов писал:

Есть речи — значенье
Темно иль ничтожно! —
Но им без волненья
Внимать невозможно.

Ничтожной поэзию Элюара назвать трудно, но можно иногда применить к ней эпитет «темная», а воспринимать ее без волнения воистину трудно» — так асцярожна знаёміў Ілья Эрэнбург з новай і нязвычнай для нашага чытача з'явай, як паэзія Поля Элюара.

Я ўспомніў і кнігу Элюара, і прадмову да яе Эрэнбурга, прачытаўшы новы зборнік паэм і вершаў Алеся Разанава «Шлях-360».

Вядома, я не сцвярджаю, што ў беларускую паэзію прыйшоў свой Элюар. Паўтарэнне, наогул, немагчыма. Але мы маем таленавітага, арыгінальнага паэта Алеся Разанава, які не падобны сваёй творчай манерай, сваім светаадчуваннем на іншых. Адчуваецца, што на паэта зрабілі значны ўплыў і Элюар, і Арагон, і Пабла Нэруда, і іншыя паэты так званага авангардысцкага кірунку. Не трэба «авангардызм»

успрымаць насцярожана альбо з іроніяй. Гэтым шляхам ідуць сёння многія паэты Лацінскай Амерыкі, Іспаніі, Францыі, Польшчы, Югаславіі.

У «Лістках календара» Максіма Танка ёсць запіс, памечаны 1936 годам: «Паэзія наша ўсё яшчэ развіваецца ў нейкай самаізаляцыі ад усіх сучасных авангардысцкіх напрамкаў, якія адмовіліся ад старых рыфмаў, дакучнай меладычнасці, кананічнай логікі развіцця вобразаў». Тут не з усім можна пагадзіцца. Але трэба мець на ўвазе сцвярджэнні Танка, што «...сапраўдная авангардная літаратура перад усім мусіць быць рэвалюцыйнай». І яшчэ: «Павівальнай бабкай (для літаратуры.— *П. П.)* было і будзе — жыццё».

Справа не ў дэкларацыях экспрэсіяністаў і іншых авангардысцкіх школ, якія даўно забыліся, а ў рэвалюцыйнай і гуманістычнай накіраванасці лепшых новых паэтаў Захада, у іх паэтычных адкрыццях.

Сам Максім Танк у апошнія гады аддае перавагу верлібрам, якія спачатку не ўсімі сустракаліся прыхільна.

У аснове паэм і вершаў Алеся Разанава — жыццё, спрадвечныя чалавечыя пачуцці — любоў да маці, да прыроды, каханне, хвароба, пошукі ісціны, роздум пра мінулае людзей і іх будучыню, пра бясконцае змаганне дабра і зла, пра непазбежнасць смерці, пра тое, што ў жыцці ўсё ўзаемазвязана.

Па-за ўвагай паэта застаюцца буднія факты, быт, а на першы план выступае «быціе». І тады голас паэта гучыць заклінаннем, прароцтвам, часамі залішне ўзвышана. Маналогі Разанава страсныя, пачуцці наслойваюцца адно на адно, словы збіраюцца ў незвычайных спалучэннях, перамешваюцца, як лісце пад ветрам. Часамі цяжка ўлавіць думку, акрэсліць пачуццё, якое захліснула паэта. Іншым разам гэта нават не думка, не пачуццё, а толькі кароткі ўсплёск пачуцця, намёк на думку. Асацыяцыі ў Разанава (а ён мысліць заўсёды асацыятыўна) нечаканыя, але ў большасці апраўданыя і дакладныя, хоць для разумення гэтага ад чытача патрэбны пэўныя душэўныя намаганні.

Асаблівая цяжкасць для ўспрыняцця некаторых вершаў і мясцін з паэм Алеся Разанава ў тым, што вельмі многае застаецца па-за словамі, у падтэксце, ды і асацыяцыі бываюць занадта далекаватымі.

Адно не адмовіш Разанаву: у шчырасці пачуццяў, у іх значнасці. Тут няма падробкі. Увесь лад яго мыслення, роздуму, пачуццяў, вобразаў — гумані-

стычны, звернуты адкрытым сэрцам да людзей. Паэт кожнай тканкай свайго радка сцвярджае жыццё з яго складанасцю, радасцю і горам, з яго драмамі і трагедыямі. Часамі можа здацца, што ў кнізе замнога змрочных фарбаў, прадчування жыццёвых катастроф. Але гэта не зусім так. Гэта б'ецца пакутлівая думка паэта над вырашэннем вечных праблем чалавецтва:

Чаго мы хочам,
з-за чаго ідзём,
чаму нідзе не можам прыпыніцца.

Тое-сёе ў паэзіі Алеся Разанава напамінае нам старажытныя «жития», даўнія прытчы, тэмы і матывы вялікіх паэтаў Усходу.

Таджыкскі паэт Рудакі тысячу гадоў назад таксама думаў, хто мы і куды ідзём. Ён пісаў:

Те, перед кем ковер страданий постлало горе,—
вот кто мы;
Те, кто скрывает в сердце пламень и скорбь во
взоре,— вот кто мы;
Те, кто игрою сил враждебных впряжен в ярем
судьбы жестокой.
Кто носится по воле рока в бурлящем море,—
вот кто мы.

Я далёкі ад таго, каб рабіць нейкую аналогію. Іншая эпоха, іншы сацыяльны лад, іншы светапогляд. Але вечныя пытанні жыцця і смерці, дабра і зла застаюцца. І тут не патрэбна падыходзіць да паэта прадузята, з гатовымі формуламі і схемамі. Трэба ўважліва і добразычліва прачытаць *што* і *як* напісана паэтам у канкрэтным вершы, паэме.

Эмацыянальная сіла ўздзеяння паэзіі Алеся Разанава значная. Ёсць у вершах і паэмах гэтай кнігі і «цьмяныя» месцы, якія патрабуюць нібыта расшыфроўкі. Але мы не можам адмовіць паэту на права пошуку, эксперыменту.

Новае нараджаецца цяжка, не адразу даходзіць, выклікае нярэдка рэзкае адмаўленне, непрыняццё.

Успомнім, з якой насмешкай і пагардай ставіліся ў свой час да французскіх мастакоў-імпрэсіяністаў Манэ, Дэга, Рэнуара. А цяпер?

Музыку Шастаковіча доўгі час «не разумелі». Некаторыя лічылі яе нават фармалістычнай. Цяпер гэта класіка, якую любіць увесь народ.

У штыкі спачатку ўспрымалі паэзію Маякоўскага, Пастарнака, не гаворачы ўжо пра Хлебнікава.

І зараз яшчэ пішуцца здзеклівыя пароды на эксперыменты Андрэя Вазнясенскага, а яго ўжо чытаюць і любяць мільёны.

Некалі да Уільяма Фолкнера звярнуўся яго знаёмы: «Я прачытаў ваш раман «Шум і ярасць» пяць разоў і нічога не зразумеў. Што рабіць?» Вялікі амерыканскі пісьменнік адказаў: «Прачытайце шосты раз».

Гэта пра зразумеласць і даходлівасць.

Паэзія Алеся Разанава складаная, але той, хто цярпліва ўчытаецца ў яе, духоўна пабагацее.

А такая светлая паэма пра маці, як «Упоцемках, з ліхтаром», на маю думку, успрымецца чытачом адразу і з радасцю.

Мне здаецца, што з цягам часу паэзія Алеся Разанава стане больш простай, празрыстай, даходлівай. Аб гэтым сведчаць лепшыя творы з гэтай кнігі і праніклівы зварот старога паляўнічага Сурмача:

Ты, сонца, свяці,
ты, лісток, зеляней...

Народны паэт Беларусі
ПІМЕН ПАНЧАНКА

# 1



## ПЕРШАЯ ПАЭМА ШЛЯХУ

Канчаўся горад.
Я хацеў паспець.
У вышыню ўпіналіся званіцы,
і вартавыя вежы свой цяжар
трымалі змрочна: што яны вартуюць?!.
Панурыя муры...
прыцяты брук...
глухія камяніцы...—
што ні скажаш,
сам не пачуеш...
Што каму казаць —
я з горада яшчэ не выйшаў.
Ніводнай простай вуліцы — усе
з намёкам нейкім, нейкім паваротам,
бязвыйсны час...
А я хацеў паспець,
хаця аднойчы трапіць не ў сутонне,
аднойчы паглядзець: ці дзе што ёсць...
Мяне стамляе горад непрытомны.

Я не паспеў. Сутонне надышло,
нібы правал:
ці ёсць што дзе — не бачыў,
нібы мяжа:
на ёй канчаўся свет,
нібы заклён:
што значыць гэты горад?!.
Я не вяртаўся — ў роспачы стаяў:
не чуў... не бачыў... моцы не ставала
сюды спяшацца, а назад брысці
між камянёў,
да камянёў туліцца,
самому камянець...
Я прападаў,
канала сэрца, думка западала —
і я ступіў наперад:
кім я ёсць?!.
І кім не ёсць?!.
Ступіў, куды — не бачыў.

Я голас чуў.
Не бачыў я сябе.
Мне голас гаварыў.
Яго не бачыў.
Быў у сутонні і з сутоння чуў...
Пытаўся голас: хто ты?!.
Я адказаў і сам сябе пачуў —
да слыху дакранулася маўленне,—
што ведаў і не ведаў: гэта я...
Так, гэта я...
А болей немагчыма
сказаць што-небудзь, я заўжды маўчаў
і голасу свайго не чуў ніколі.
Так, гэта я...
А хто я — не магу
цяпер сказаць, сказаў бы — памылюся...
Я сам сябе праз горад пазнаваў,
а ён мной ані разу не азваўся...

Так, гэта я...
Я горад пакідаў,
а ўсё не мог пакінуць, быццам нехта
яго прысніў —
я ў нечы трапіў сон:
як ні выходзь — сутонне напярэймы...
— Ступі далей,— мне голас загадаў...
І я ступіў...— убачылася ззянне;
пяшчотнае: нібы яно цвіло,
разумнае: не рэзала пагляду,
я разабраўся: голас быў адтуль...
Ён зноў пытаўся: хто ты?!. назавіся!..
І верад свой я ў словы пераклаў...
...Я голас выдзіраў з сябе:
бы плеўку,
нібы хваробу —
выдраў і шпурнуў,
а ён упаў і, ўпаўшы, варушыўся
і да мяне цягнуўся...
Я хацеў
сказаць, што ён дарэмны,— і не здолеў...
Так і цяпер...—
не здолею сказаць,
не здолею назвацца,
бы дарэмны,
незразуметы ззяннем,— перад ім...
Я сам сабе не ведаю імёнаў.
— Ступі далей,— штурхнулася ў грудзях.
Я зноў ступіў — і ў ззянні апынуўся.
Ім ахінуты, сам сябе не меў,
бы раставала цела безбалесна...
Пытаўся голас...
Што я мог сказаць,
што мог я сцвердзіць?
Гэта быў мой голас...
Ён ува мне быў, ён пытаўся мной
і мной чакаў.
Я адказаў па-свойму:

ты ведаеш, кім ёсць я, кім не ёсць,
сам назаві мне ўсе мае імёны,
адно імя,
якое мушу мець
перад адзіным.
Я не адзінокі,
я адпаведны...
Прагучаў здалёк
і адвярнуўся голас: назавіся...

Прыкуты да зямлі, на ланцугу,
вялікая зямля — а я нявольны,
гляджу перад сабой —
прасторны зрок:
у ім я сустракаюся з прасторай;
і думаю: што значыць мой палон,
калі сінее неба неабсяжна,
калі вада хавае глыбіню,
калі зямля не месціцца ў палоне?!
Сябе не адчуваў тады, бы сам
і небам і вадою станавіўся,
не часткай іхняй, але ўсім, і ўсёй,
і ўсёй зямлёй:
яна мяне гаіла...
І звон — не ланцуговы — наплываў...
Ланцуг быў лішні, але ўсё на месцы.
А ці на месцы я?!.
У цёмны час —
не мог супрацiўляцца ім і бачыць
я іх не мог —
адгэтуль і адтуль
дзве цёмныя істоты адначасна
прыходзілі...
Штоночы паміраць
наканавана целу:
раздзіралі —
яно крычала моўчкі...
Хто яны?!.

Што пра мяне вядома ім?!.
                    Зіхоткі
мне голас быў: скажы, што ты свіння!..
І быў другі: скажы, што ты сабака!..
А я маўчаў — не здолеў гаварыць...
Пакута пераконвала ў інакшым,
пакута адкрывала: кожны раз
ты здолееш сказаць так — гэта мала.
Яшчэ не час, для большага трывай...
І я трываў.
Я той, хто неназваны...
Яны знікалі з цемраю.
                    Зямля
мяне гаіла.
Дзіўныя істоты —
што ім патрэбна: мучылі мяне,
нібы такі я быў недастатковы.
Хто мае цела — ходзіць па зямлі,
а я ішоў праз цела, нерухомы:
яно мой шлях,
бязмежнае яно...
І адчуваў, што некуды выходжу.

Я пасярэдзіне —
                    валочыцца ланцуг,
як напамінак, што цяпер я вольны,—
а па баках сабака і свіння,
у белым дні:
таемныя істоты.
Яны суправаджаюць і вядуць...
Пясок сыпучы трэцца пад нагамі,
сінее неба,
                    мора-акіян
бяжыць у нерухомасці.
Нічога
ніхто не кажа, нібы ўсё і так —
настане час — і стане зразумела.
А ўжо раскалыхаліся пяскі,

скрануліся і рынуліся ў неба,
і застагнаў-хіснуўся акіян...
Хто быў са мной — прапалі вокамгненна.
Нарвалася віхура —
я ўжо ў ёй...
Над гібельнай вадой ужо —
я гіну...
Я падаю, бы камень...
Прагучаў:
скажы, што ты свіння!..—
ў той момант голас.
І я паспеў: я той, хто не свіння...
я той, хто не свіння...—
паспеў прамовіць
і закруціўся, згінуў...
І туды,
адкуль узяўся, ўпаў, як непрытомны...

Стаяў сабака побач — ён чакаў.
Другое не было,
я азірнуўся:
а дзе свіння?..
— А я ўжо не свіння,—
пачулася ў паветры непарушным.
Ідзём далей.
Удвух цяпер.
Ланцуг
назад распасціраецца, бы хоча
вярнуцца да ранейшага, калі
ён быў пры ўжытку зразумелым...
Віхура — зноў...
І зноў я над вадой —
над пашчай ненасытнай...
Быццам камень...
Не камянямі пашчу насычаць...
Як мне бездапаможна!..
Я не помніў:
я ёсць або не ёсць...

Пачуўся зноў,
зноў голас быў: скажы, што ты сабака!..
І зноў я адказаў наадварот:
я той, хто не сабака...
                                І на бераг,
бы сэрца абарвалася, упаў...

Нікога не застаў.
Я ачуняў.
Пайшоў адзін, але не адзінокі.
Адным канцом нявольны,
                                а другі
я падабраў, ім звольнены...
Самохаць
нясу ланцуг — выходжу з ланцуга...
А не данёс... не выйшаў...
                                На пясок,
уражаны, прыпаў...
Рухомы вір,
бы нечакана, вырас у прасторы
і, ўкручваючы неба і зямлю
ў сябе самога, у знішчальны танец,
у скон, у бездань,
                                рухаўся сюды...
Жахаўся я глядзець:
безабаронны
мой кругабег, які мяне сцвярджаў
і адмаўляў...
                                Я ўрынуты ў віхуру...
Зіхнула ззянне, быццам апякло...
І голас адазваўся, бы напоўніў
да самай рэшты...
Я хацеў паспець...
Ён спапяляў...
Кім быў я?!.
Назавіся!..
Сарваны з месца,
                                падаў акіян,

і мільгацелі вобліскі і ўсхліпы...
Растурзаны:
...я той, хто не свіння...
Блукалі сны:
...я той, хто не сабака...
Вада і жахі тыцкаліся ў твар
я ў многіх тварах
гіну не сказаўшы
трапляю ў горад
з горада іду
іду не я
пытаюся я хто ты
за шыю абдымаў ланцуг
я быў
сабака і свіння яны сцвярджалі
яшчэ трывай
яшчэ ступі далей
па-за табой сустрэча немагчыма
я быццам плеўку голас выдзіраў
і адшпурляў а голас варушыўся
ён гэта я
мяне ўжо не было
а словы гаварыліся пачута:
я той хто шлях і хто па ім ідзе...

Ачнуўся я...
Мне чуўся ціхі звон...
Я прахапіўся:
гэта быў *мой* горад,
далёкі горад...
Ён нібыта плыў,
ён азываўся —
я пайшоў насустрач.

## З-ПАД РУКІ

сам незваротны
постаць у небасхіле
заўсёды хапала на заўтра
пароўну дзеліцца хлеб
кавалак сабе
і таму хто прыйдзе
пароўну дзеліцца заўтра
а постаць у небасхіле
не можа пайсці
і не можа прыйсці
не дзеліцца страта
ужо ніводны
выпала заўтра з маёй рукі
таму хто не прыйдзе кавалак хлеба
заўсёды прыходзіць не той хто пойдзе
пільная постаць
выпадзе з-пад рукі

## СВЕЧКІ

а гэта твая

каторую сцішыць
каторую кнот паправіць
каторую згасіць

у спыненых пальцах жанчыны
блукае
балеснае сэрца

# КВАНТЭМЫ

* * *

зацяты радавод
жыўлю зямлю
учора вечар

* * *

ці доўга
вагам
калыхацца
лёс развражае
незаўважны крок





## ПАЭМА ПЕРААДОЛЕННЯ

*Алаізе Пашкевіч (Цётцы)*

Адусюль я:
з кожнай хаты,
з кожнай вёскі...
Нюць скрыдлы.
Задзівуецца араты.
Мне на доле жыць абрыдла.

Ты сябе
не заўважаеш.
Хваля ўскінецца зіхотка.
Не свая і не чужая —
без імя завешся —
Цётка.

Са свайго —
да ўсіх —
што мела —
вызвалялася —
як з клеткі...

Сіне, чырвана і бела
зацвітуць у небе кветкі.

Каляінам не наўпрост.
Лета сцелецца абрусам.
Ачышчальна,
нібы ў хрост,
навырост —
у беларусы.

Несустрэты —
настае
матчын край.
Нібы ў загане —
у сабе...
Мы ўсе твае.
Адраджаюцца ў змаганні.

Што шукала доля наша?
Сэрца —
скрушная адзнака.
Хтосьці ўсклікне.
Каля чашы
агарнулася вужака.

Для малітвы.
Для душы.
Кветкі — цешыць.
Кветкі — клясці.
Намалюй нас,
напішы...
А каторая для шчасця?

Птушкі ўюцца
наўздагон.
Я цябе не прамінула,
Беларусь —
балесны сон:

разам —
вешчы і мінулы.

Не цябе —
сябе забуду
я, празрынуўшы натурай.
Дзе яна? —
пыталі ўсюды.
Ты адказвала:
за бурай.

Заступаюць:
не прайсці.
Нетры зблудзяць.
Згубяць сховы.
Багна песціцца ў трысці...
Мне сябе недастаткова.

Глуха
вухкаюць
сівілы...
З-за карчоў
глядзяць
пачвары...
Разварушаныя сілы.
А каторая для чараў?!

Нешта будзе —
у грудзях —
спасцігаюць —
і асіны —
так бяздонна —
нейкі жах —
што марудзіш —
медыцына.

Слоў і думак працібой.
Бы раскручвала спружына —

кім ты ёсць...
Па-за табой
замірае грай птушыны.

Жыць не ўмела пакрысе.
Па адлегласцях,
па летах
зажадаеш — як усе,
і не здолееш —
каб гэтак.

Медыцына,
цяжыць ношка!..
Чаша поўная —
ў аддзяку.
Ля жыцця тваго сцяжка
абвіваецца вужака.

Неспакою верацёны...
Спадзяванні —
на памылкі...
Сіне, бела і чырвона...
З бурай вырастуць асілкі.

Сэрца мкне да небыцця.
Загубіцца ў тым,
                што міла,
што сваё...
Нібы дзіця,
ты агонь сабой жывіла.

Ты з усёды,
ты з усюль —
з Вільні,
Полацка,
Гародні...
Ўсіх даслухаеш зязюль...
Неназваны, як бязродны.

Калыханне летаў, зім...
А шчымліва,
як прапажа,
белы камень
па-за ўсім...
Ён імя тваё адкажа.

Узахоп
цябе збірае
глыбіня:
блукала звонку.
Ад заклятай брамы раю
адвяртаецца Зялёнка.

Помню ўсіх.
Не помніш смерці.
Неадступныя хвіліны.
Змоўкне хтосьці.
Каля сэрца
апаўюцца каляіны.

Цесны дол.
Стагоддзі ў змроку.
Кроў паточыцца з-пад рала.
Бы аднекуль —
дзіўным зрокам —
што ўзарэцца —
назірала.

Стома льнецца да павек.
А чаму —
сказаць не ў стане —
не абдзелен чалавек...
Што няможыла —
растане.

Не спыняйся, маладосць!..
Перад хваляй усявышняй

утрымацца б,
хто чым ёсць...
А — утрымлівацца лішне.

Я ва ўсіх сябе пазнала.
Развінае крылы змога.
Доля дасць.
Кажу: замала.
Заўтра вымаўлю:
замнога.

Абамлелая шчака.
Даімчыся, хваля!..
Ярка
пыршчуць кветкі з-пад смычка...
Бе-
ла-
руская пяснярка.

Так ніхто не мог, як ты.
А каб змог,
нібы спірыты,
твае здымкі і лісты
цябе клікацьмуць прыкрыта.

Паімчышся шпаркай хваляй.
Перакінешся ў зязюлю.
Можа, дочку сустракалі?!
Раздзьмувалі —
і задзьмулі.

Я — дзе ты —
о, безгалосы —
беларус —
мой брат маленькі...
Пракаветныя нябёсы.
Купкі дрэў.
І жвіру жменькі.

Век чакаць —
хвіліна —
дзе ты —
хто сваёй прызнае —
ўпасці...
Ля грудзей крывавым цветам
зацвітае кветка шчасця.

У якой хто даўніне
і ў наступнасці?..—
кажыце...
Завязаліся ўва мне,
бы мае,
чыесьці жыцці.

Каляіны,
дзе канец?
Свецяць захады і ўсходы.
Прагну цуду.
Пасланец —
сэрца вывядзе:
ў свабоду.

Задзьмувалі:
ўсімі —
болей.
Менш —
усімі:
і раздзьмулі.
Неадоленая доля.
З роду-племені зязюлі.

Млосна словам.
Сонца стыне.
Хтосьці ўсклікне.
Змоўкне хтосьці.
Бела, чырвана і сіне...
Не шкадуйце маладосці.

Я сустрэну ўсіх.
Так будзе,
а чаму —
не растлумачу...
Да людзей прыходзяць людзі.
Абпячэш шчакой гарачай.

З непрытомнага чала
кветка скоцiцца жывая...
Белы камень,
 я прыйшла
прачытаць імя, што маю...

Неба хіліцца бухмата...
Дрэвы дзівяцца здранцвела...
Мама, мама,
 выйдзі з хаты:
ў двор
зязюля
прыляцела.

## ПРОСТАЯ ЛІНІЯ

рыжагаловы хлопчык з палескай вёскі
дзяўчаты і тыя цябе не баяцца
пагонішся за каторай —
не зловіш
і тады ты бяжыш далей
па той простай
па той засяроджанай лініі
якая табе аднаму відаць

## СТРАЛА

між птушкамі і людзьмі
развітваецца кулік
страла скіравана ў самоту
куды не дайду — іду
што аддаю — не аддасца
між птушкамі і сабой
кіруе стралой самота
бывай я пайшоў дадому —
развітваецца кулік

## КВАНТЭМЫ

* * *

захоўваюцца мною
мне пярэчаць
рассыпаная соль
на ўсіх вячэра

* * *

надзея навырост
парожні поўдзень
распростваецца
жоўты
дзьмухавец

3




## ПАЭМА ЗАПАЛЕНЫХ СВЕЧАК

Круціўся хмыз.
Бяссувязны язык
хваліў жыццё.
Заблытаныя святы.
Празрэнні апярэджвалі разлік.
А людзі разумелі:
блазнаваты.

Клаў вогнішчы.
Сам побач клаўся.
Дым
шукаў сваё.
Шаптала штосьці лета.
А над шурпатым розумам тваім
згушчаліся зіхоткія сусветы.

У полымя апранутыя —
сніў,—
крычалі птахі:

бацька твой галодны.
А адыходзіў —
вогнішчы гасіў.
Каб адысці — пагаснуць неабходна.

Узбоч жыцця пазначацца крыжы.
Чым захапляўся —
тое наракае.
Прыручаныя рухі.
Адкажы,
куды ідзеш?..
Ішоў да небакраю.

Усюды — ты:
крывая іпастась.
Каб распрастацца —
мкнуцца да экстазу
пытанні,
што не ўмеюць папытаць,
што адказаць не здолеюць,
адказы.

З-пад рук — пясок.
Жывое — спарышы.
Паруш ваду —
патайнае парушыш.
А бацька гаварыў:
не церушы —
у матчыныя вочы нацярушыш.

Чароды сноў.
Празрэнні — з чарады:
ўдрукуюцца ў цябе,
нібы ў вашчыну,—
зайсці у неймавернае туды,
адкуль ужо вярнуцца немагчыма.

Круціліся сцяжыны:
дзе чыя?

Жыццё разгаліноўваецца ў спробы.
Аголенае
сэрца
ручая.
А рэчы ацярушваюць аздобу.

Хто сустракаўся —
ўжо той не чужы.
Праточыцца сутонне пад павейкі.
Прад чалавекам зоркі і крыжы.
Куды? — пытаўся.
Ўсім было данекуль.

Падзел яднае.
Адкрыццё — на раз.
Жыццё перабірае іпастасі.
Змяркаецца
прыручаны
абраз.
А бацькава вячэра засталася.

Напружваюцца пільна зрэнкі з'яў.
Што набываў —
адхіліцца ў прапажу.
Куды жывеш?
Імёны называў,
якія ўспамінаў:
жыццё пакажа.

Дзе ў немачы,
дзе ў моцы — пазначай.
Празрэнні адмаўляюцца ад ежы.
Да сэрца
дакранаецца
ручай.
Я не сабе —
сваё шукаў —
належу.

У зрэнкі зазіраюць груганы.
І лёс
свае дарункі
забірае.
А бацька прыўзнімаецца з труны:
удзень і ўноч ідзі да небакраю.

Праточваўся пясок.
Да нейкіх меж
ты набліжаўся.
У сабе не ўжыцца.
Дагэтуль — ты.
Прачнешся і заснеш.
А ўвечары падыдзеш да бажніцы.

Пытанні
рассяроджаныя
ў днях.
Вышэптвае
сутонне
запаветы.
І будзе
бразгатаць падзёрты дах
і зазіраць у сэрца іншасветы.

О думка неўтаймоўная, бяжы!..
Я — небакрай.
У немачы знайдзіся.
І я — хада:
усюды па мяжы.
А бацька патрабуе:
нарадзіся.

Дыханне свечак.
Смутак абразоў.
Зіхоткасцю аздобленыя строі.
Адшукваўся сцяжынамі разоў.
А сам ужо апрануты ў старое.

Груган
наскрозь
твой розум
прадзяўбе.

Назваць збіраўся,
ў пераліках спробных,
без імені,
адгэтуль ты,
сябе —
апошні між усіх аднаасобнік.

Я чалавек:
я смягну і тужу.
У разважанні ўблыталіся рэчы.
Што пра сябе —
спытае хто —
скажу?
У пустцы прызначаюцца сустрэчы.

Адлікі апярэджвае хада.
У розум удрукоўваецца нешта.
Сабе і бацьку.
Горкая вада.
Вандроўнікі
натоляцца
дарэшты.

Што з некім адбылося,
што з табой,—
адрозніваў.
Пясчаны пошап смагі.
Над размаітай памяццю былой
заззяюць пакручастыя працягі.

Распростанае
свята
зацвіце.
Імёны пазнаёмяцца нанова.

Сам без сябе,
у шурпатай пустаце.
А рэчы рэпецiруюць прамову.

Людскiя — лёсы.
Скрыцце — ў адкрыццi.
Ужо бездапаможныя,
каленi
укліняцца ў пясок —
пераўзысці
зацверджаныя межы і ўяўленні.

Захопліваюць рухі пустату.
І думкі адхіляюцца ад спрэчкі.
У іншасвеце
хмызам
прарасту.
Ад вогнішча
запальваюцца
свечкі.

## НА ПЕРШЫМ СНЕЗЕ

дагэтуль самому
а потым з сябе
абудзіцца рыса
гарачы дотык
а потым на першым снезе
дагэтуль абое
у першым шчасці
пярэйдзем як снег за рысу
калі растае — апошні:
за рысу пярэйдзе снег
дагэтуль нязгодна
а потым далей чым двое
без прысмаку дотык
дваім далей
на снезе апошнім
хіснецца рыса
дагэтуль гарачы
услед вільготны
а потым далей чым шчасце —
мяне пакаштуе снег

## КНІГАЎКІ

у лотаці жоўтай
а што ўнутры:
дачаснае сонца
без абалонкі —
рынецца вобзем абвуглены крык
у лотаці жоўтай
самлее сонца

# КВАНТЭМЫ

* * *

ён вызваліцца сам
маўчанне ў вязню
уражаная вежа
моваў шмат

* * *

хто зможа прыручыць
нічыйны меч
між вечных рэчаў
спыніцца
гадзіннік

# 4



## ПАЭМА РЭХА

Адкуль слімакі — застаецца спрэчным і цьмяным. Дагэтуль не знойдзены іхні продак. Але, як пацвердзілі доследы, маецца ў іх надзвычайная функцыя: ўтойваць і помніць.

Ты сам сябе помніш толькі *такім* і размову, з якой ад цябе не хаваліся: сам зразумее, бо як яму растлумачыць?!. Сам зразумее найлепей, што ён *такі*. А маці, калі на цябе азірнулася, як напалохалася: ён усё разумее, што мы гаворым...

Зноў прыдаліся пляскатая трэска і круглы крапчасты камень — ты з імі гуляў, і табе было добра: *тое* ўжо не балела, бы некуды знікла, як знікла, калі ты аднойчы парэзаўся шкельцам, кроў на пальцы — сама, без цябе, без тваіх намаганняў...

Ні тая пляскатая трэска, ні крапчасты камень, ні матылёк, за якім ганяўся, ні ва-

шы — як думаў — буслы на пуні нічога табе не сказалі: ні ў чым не было чужога.

Потым ты бавіўся з дзецьмі ў пульхным дарожным пяску — падкідвалі прыгаршчмі ўгору: на каго ўпадзе?!. Падкідвалі і адбягалі, падкідвалі і крычалі: ...на каго бог — на таго і я... І ты адбягаў, і крычаў таксама, і не зважаў: на цябе найбольш...

Зграбалі пясчаныя кучы, усё ў цябе атрымлівалася, як і ў іншых, але калі паспрачаўся з-за кучы — хто большую кучу пяску нацёгаў,— суседскі хлапчук замест доказаў крыкнуў зламысна: Карпеч... І дзеці, паўскокваўшы, падхапілі: Карпеч...

Ты здранцвеў... разгубіўся... пабег дахаты, а ззаду крычалі адно і тое ж: Карпеч...— пачварнае, недарэчнае, несправядлівае слова, але гэтае слова было пра *тое.* Ты бег і не плакаў — да тых, што заступяцца: о, тата!.. о, мама!..— да іх... Што выправяць, каб усё было добра, што абароняць... А каля ганка раптоўна спыніўся: прыпомніў іхнюю гутарку і штось зразумеў, і тады заплакаў, і плакаў, прыпаўшы да ганка... А слова, запаўшы ў цябе, узышло і намацала самую сутнасць — о дзіцячая правата і дзіцячая жорсткасць!..

Разглядаючы ракаўку, неабходна зважаць на ўсе ямкі і ўзгоркі. Няма ў ёй нічога лішняга: як агульнаю формай, так самаю дробнаю зморшчынай — усё неабходнае. Па знойдзенай ракаўцы можна заўжды здагадацца, як называецца гаспадар...

Не цябе заўважалі — твой горб, не табой пагарджалі — горбам, а цябе шкадавалі: няшчасны лёс, а ён жа яшчэ малое... І стаўся лёсам тваім горб, і лёс твой з ім стаўся... Твае аднагодкі ў лёс забаўляліся, а ён — ка-

лі непапраўна... калі незваротна... Калі адна кропля, каб разлілося, калі адзін момант, каб назаўсёды... Кім хочацца стаць вам? Таму — чэмпіёнам, таму — леснікам, а таму — генералам, але нікому — гарбатым... Ну, а ты не хацеў быць нікім, ты хацеў быць звычайным вучнем. І болей нічога... Нічога болей.

Раслі твае аднакласнікі і раслі аднакласніцы, а ў цябе рос горб — нібы жывая істота, цябе высмоктваючы, нібы рука штукара, камечачы і ўбіраючы... Ты адставаў: даганялі цябе маладзейшыя і адштурхоўвалі... адціралі... А спрабаваў бараніцца — не здолеў, толькі адчайна ўчаперваўся доўгімі гнуткімі пальцамі: яны вырываліся, апярэджваючы...

Ты быў ім усім апраўданнем у іхніх няўдачах і скрухах: ...у Карпяча яшчэ горш...— самы нявартасны, стаў ім апорай... З верхняга пазванка вырасла галава, а са спінных — горб, і ён, незаўважна ўсім, прыўзняў цябе над усімі... Ты стаў разумець, што і ты можаш мець перавагу, і меў тады перавагу: ва ўсім, але толькі не ў целе...

У кожнай частцы чалавечага цела паўтараецца ўвесь чалавек, царства жывёл паўтарае яго таксама... Галава паўтарыла тулава — што паўтарае горб?.. што адбіваецца ў горбе?.. Чым багацейшая ракаўка на прыкметы, тым болей адметны слімак.

Вабіла вельмі цябе — у чым сам быў ушчымлены — цела: мужчынскае і жаночае, стройнкае, моцнае, круглае цела... Нібы звярок у аблозе, таіўся і цікаваў, як на пляжы пануе і множыцца цела: запаўняе ваду, і зямлю, і сонца, цябе выцясняючы, цела... Знаходзіў на беразе ракаўкі, трушчыў і назіраў: канае жывое і слізкае... А дзе было пу-

ста — думаў: куды дзяваюцца слімакі?.. Куды дзяваюцца слімакі з ракавак?..

З году ў год расце ракаўка — страшная пастка, якая сціскае, бязлітасна скручвае слімака і прымушае звівацца ў спіралях. Спіральная форма ракаўкі спачварыла слімака: яна не падпарадкоўваецца асноўнаму закону жывёльнага свету — двухбаковай сіметрыі...

У чым справядлівасць — што людзі жывуць або што паміраюць?.. У чым справядлівасць для іх і ў чым для цябе?.. Каб усе былі роўныя або гарбатыя — і справядлівасць была б аднолькавая, і ці можа быць не аднолькаваю справядлівасць?!.

Маці казала: ...ёсць рай і ёсць пекла. Хто на зямлі пакутуе — будзе ў раі... Але не сказала — якім... у якім абліччы: гарбатым ці простым, з памяццю ці без памяці, сабою ці не... А ты забаяўся спытаць і паўтарыць пытанне: у чым справядлівасць?!. Калі гарбатым — у чым?.. І не гарбатым — у чым?..

Слімаку аднолькава шкодзяць і лішкі вады, і засуха. Таму і паводзіць ён, быццам капрызіць: то ўзлазіць на дрэва або сцяну, то поўзае па траве вільготнай — то Сцыла, а то Харыбда...

З памяці выраслі рукі твае — не з цела, доўгія рукі, і ты не па іх, а памяццю сталі вада і бераг і апусцелая ракаўка ў форме рэха...

Паўзе слімак па дарозе, якую сам пракладае: слізіць... слімачыць... Калі пакласці яго на попел — а слізь не бярэцца да попелу,— ён спыніцца, ўздыбіцца, а потым схаваецца роспачна ў ракаўцы і будзе чакаць пакорліва смерці... Па следзе сваім слімак знаходзіць дарогу да месца свайго жыхарства, нават калі запаўзе далёка...

Доўга ты бачыў адну толькі розніцу, жорсткую розніцу: быў ты, былі іншыя, быў ты і была дасканаласць, быў ты і быў бог, і была розніца ў падабенстве... Па чыім падабенстве ты вырас, па чыім падабенстве ты рос, па чыім падабенстве ты нарадзіўся?! У дасканаласці — форма рэха...

Ты ўзіраўся ў людзей... Ці адпаведныя людзі жыццю?.. Ці адпаведныя целы натурам?.. У каго не стае рукі, хто кульгае, хто кепска чуе, хто без вока — а разам калекі... Але ты і між іх незвычайны: ў іх аднята, табе прыкладзена...

Неяк спаткалі вы Юлю, сляпую Юлю: самую ганьбаваную і занядбаную ў вёсцы, не прамінулі — смяяліся, а ты быў наперадзе... Адзіная ў вёсцы зямлянка — Юлі, адзіная, хто па хата́х пабіраецца — Юля, у Юлі — два Юлічы, а ў іх ніводнага бацькі, і вока адно — у Юлі... Спынілася Юля і стала клясці вас — хваробай і смерцю, вы сумеліся і адступіліся, а яна ўсё крычала: ...вы горшыя за мяне, а Карпеч ад усіх найгоршы...

О, як ты пасля адцураў і сябе і сваіх сябрукоў — быццам смех той з цябе быў... Заможны Юлін сусед хадзіў у царкву акуратна, а Юля — калі-нікалі... І ён яе ганіў: паслаў бог суседства... Ганіў, чаму не хадзіла, а чаму хадзіла — найболей, і проста так ганіў — бо Юля... Ягоныя дзеці выносілі словы з хаты, дражніліся з ёю і снег закідалі ў комін зямлянкі... Ніводную ў вёсцы дзяўчынку дасюль не назвалі Юляй і, пэўна, не назавуць: Юліна — Юлі, табе — Карпячовае і слімаковае — слімаку...

Па слімаковых рэштках можна дазнацца пра ўмовы іх існавання, прычыны ўзнікнення і гібелі. Незаменныя дзеля гэтага ракаў-

кі: яны добра захоўваюцца шмат мільёнаў гадоў.

Куды паміраюць людзі? Куды паміраюць людзі?.. Куды паміраюць людзі?!. Нават зямля не схавае і не паправяць стагоддзі, што ты быў гарбаты... Часова — навечна: вечная памяць у форме рэха... Ты вырастаеш з памяці...

Ты вырастаеш са смерці: смерць — калі помніш. Што помніў вясковы фельчар: двойчы вымалі яго з пятлі, на трэці раз не ўсачылі?!. Што помніла Юля сваёй слепатой?! Што помняць людзі, калі смуткуюць?! Што помніш ты непазбыўна?! Смерць — калі помніш... І форма рэха...

Ты скончыўся не пачаўшыся — для роўнасці і для паўнаты... Пакарабачаная змястоўнасць, што ў ёй засталося ўліўшыся, а што разлілося і разліваецца? Якім бы ты быў, каб не быў Карпячом?.. Якім бы ты быў?.. І калі не быў Карпячом, якім тады быў ты?.. Надтачылася думка твая: ты памёр і ўваскрос, быў нічым, а ўваскросшы, стаў нечым — стаў жывым, стаў гарбатым, стаў Карпячом... Калі быў жывым ад жывых, зайздросціў жывым і жыўшым — у іх усё добра і добра было, бо ўсё ў іх па-чалавечы, а стаўшы жывым ад мёртвых — раптам напоўніўся, што жывеш... Ты нараджаўся ў другі раз — праз рэха, а нараджалася рэха праз горб...

Што ні думаў пра горб — станавілася горбу вядома: калі змрочнае і варожае — адбівалася на табе, калі блізкае і шкадуючы — ён цябе шкадаваў узаемна... Ты ўхіляўся і тузаўся, не жадаючы гэткай прыязнасці, і ўсё думаў, як станеш хірургам, і пазбавішся ўрэшце ад гарба, і адкажаш прыязнасцю на

прыязнасць, і па прыязнасці жэніцся... А пра тое, што думаў горб, і ўявіць не рашаўся...

І прарочы ёсць тып... Як арган — новы орган... І калечыць, і мучыць, і функцыя дзіўная: прадвяшчаць, што з'яўляецца... прадвяшчаць, што ўзнікае... прадвяшчаць новы тып: слімака... чалавека... і новую функцыю...

Абвастрылася думка — як скальпель... Што хацеў — у ёй адбывалася: ты ў ёй гінуў... у ёй быў зямлёй засыпаны, і магіла твая была трэцяй ад плота, і рос бэз, і былі агароды блізка... Ты ў ёй жыў і мяняўся: то дзёрзкім асілкам, то каханкам нястомным, а найчасцей слімаком прыбярэжным... Як бяссільны ты быў не ў думцы, але думка таксама пакуль што была бяссільная...

Хірург, ацаліся сам... Ты будзеш разрэзваць, і сшываць, і шукаць ва ўсіх горб і разгадваць сутнасць горба, адмаўляць і сцвярджаць — і нічога не зможаш адмовіць і сцвердзіць: усё далей і вышэй — о, вышэй і далей!..— перасоўвацца будуць парогі жыцця і твайго меркавання...

Адляталі буслы і вярталіся — быццам мелі ў прасторы сваю дарогу... А пашкоджваўся вусень — матылёк нараджаўся пашкоджаным... І назіраць неба, і прадказваць вецер або навальніцу, і абставіны ўсемагчымыя, і знаходзіць зёлкі сабе ад хваробы... У руцэ нерухомага Шывы — пустая ракаўка...

Слімак ні на хвілю не можа расстацца з ракаўкай, хіба што — калі памірае... Куды слімакі паміраюць?!.

«Да ўвагі... На беразе К-скага возера нехта пакінуў адзенне з абуткам і споднім... Мяркуючы па адзенні, уладальнік яго быў

гарбаты... Дакументаў не аказалася... Тамсама ляжалі круглы крапчасты камень і ракаўка слімака... Асобаў, якім што-небудзь вядома пра ўладальніка гэтых рэчаў, просім паведаміць у аддзяленне міліцыі...»

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Куды дзяваюцца слімакі [illegible] ракавак?..

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Смерць — калі помніш...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

## КУБАК

мроіць вада —
сябе
што мроіць мяне —
атрута
кубак [redacted] якога ваду
кубак пасля якога
аднаразовы п'ю
натольвае паядынак
з'яднана вада сабой
па-за сабой атрута
аднаразова смерць
кубку не наталіцца
нябожчыку піць ваду
кубак атруты боскі
мрою па-за сабой
калі па-за ёю — мроя
у кубку вады вада
натоліцца паядынак
з'ядноўвацца аднаму
кубак атруты — мроі

## БУЛЬБІНКІ

стары чалавек
на зялёнай траве
на рэштках свайго хутарышча
на рэштках глузду
яго называюць:
Лепей-бы-ты-памёр
а таксама:
Жыві-доўга
з карэлага кацялка есць крышаны хлеб
а бульбінкі — пфу!..— не зварыліся

# КВАНТЭМЫ

* * *

хлеб назусім
аднойчы
дасца
зброя
без вобразу нябыт
прыўзніме лёзы рунь

* * *

уцёкі доўжацца
замкнёна
ў словах
смерць
я ўсім знаёмы

5



# ПАЭМА КАМЕНТАРЫЮ

*Францішку Багушэвічу*

I

Не сёння напісанае чытаю сёння.
Збіраю ў адно лісты: зацярушваў тлен
(станеш сціраць — і нічога ўзамен не
знойдзеш
збіраецца вобраз
парожне ў шыбе
на мове зорак і дрэў).
Іх краты трымалі: трымаюць жывое...
Хто гаварыў: надзейна
хто: безнадзейна —
усе пра адно...
Кім абуджуся: трымаюць сёння
а чалавек
пеставала пакута
твой павадыр — твой скон
у світцы сялянскай
у дрэўнай паставе:
пераадолела дрэва сваю мяжу...

Ужо не ўваскрэсне калі не сабраны з
кожным —
стане ўглядацца:
закляты скарб
стане маркоціцца:
думаў я толькі дрэва
белае ў цёмным мая сэрцавіна:
маркоціцца скрыпка мной...
Стане адгадваць
стане даваць імёны
так многа аблíччаў адно нерухомае
Беларусь
тут згуба
і бога
застаўся
няма
Багушэвіч
парой
не ў пару
і дарога днее
і падступае да самых пісьмёнаў паўстанцкі
лес.
Няхай між вазоў у сялянскіх світках
яшчэ безыменна ідуць:
за чым...—
за чым гэты час
адвячорак
цвілося
за чым імёны?!.
Выйшаўшы з дрэва па дрэву тужыш
і нельга пачацца зноў.

II

Хто ён памёр не такі як дрэва
усе нараджаюцца тут і цяпер
у іншых інакш:
бараніцца — ў спадкі

за абаронцам — лёс...
У зоры дзівіўся
айчыну клікаў
я —
вобраз мінае:
ёсць
мне — здрада
а стануць тлумачыць — мною
запальвае згуба паўстанцкія барвы
і ныюць пісьмёны: ты бацька ахвяр...
Бароніш —
зямля застаецца —
ад выпадку —
мае праўду
а чалавек ад прычыны —
пытанне —
меў
хто бацькі хто сына хто духа — цябе
выракаўся
ў старыя паперы
у зборлівы почырк
у стос лістовы:
я думаў без шыбы а ў шыбе маркоціцца лес.
Бы кара айчына:
світае ў вочы
распрэжаны коні і дрэвы знаёмяцца што за
чым...
Абапал пазбыцца табой крывілі
табою выпросталіся: занадты —
ніхто не вярнуўся ў скон...
Хто ён
пару ўваскрашаць
інакшы
чытаю
за ім
'невідушчы тлен:
у спісах жывых Багушэвіч не значыцца
у неўміручых таксама не...

Глыбокі світанак
вобраз і памяць роўна
ратуеш відушчых
нашчадкаў больш
хто сёння
тваё
назавецца
сваё
прыпомніць
а шыба глыбей калі ўжо не разважу
хто ён застаўся а хто ён памёр.

III

Ці ўсё напісаў:
перабельвае тлен
хацеў пра сябе
а пісьмёны лясныя
хацеў быццам лес
а мяжа свая:
напісанае недастаткова.
Займаліся колеры —
ўцешна вачам
спыняў і спыняўся:
чые летуценні
і цені айчынныя ўпарта клікаў
і скардзіўся скрыпцы:
навошта я
калі не магу па-свойму?!.
Ад — сын
адбярэцца
ад сына
памяць
і тлен будзе моўчкі тлумачыць лісты
твой лёс пераняты —
разняты вобраз
для пільнага пляца ў напятай Вільні
для чалавека які не пачнецца зноў.

Для
мова
абраная
ўваскрашэння
над
цяжкае неба
прычына
і выпадак
тоіцца
пільна
з-пад
не адступаюцца ў ёй карані ад пачатку
калі я цягнуўся да продкаў: вярніце ў сёння
мяне
да сёння нашчадкаў: вярніцеся самі...
Прарокі задушаныя ў немаўленстве ёй меліся
гаварыць.
Згасаюць лісты:
лес напіша далей...
Мяне абжывае абапал а лесу проста:
недастаткова Мацея было пісаць
недастаткова Сымона было пісаць
будзе недастаткова...
Не сёння
адкрыецца
Беларусь
падарунак мела.
А дрэвы
ці ўсё атрымаў
пазбягаў
па табе
не пазбегнуў
ішлі
у карны
а ты не зямля
світанак
і скрыпка спрачала: навошта я?!.—
бясколерны канчатковы...

4*

Час
адпаведна
куды ісці
але адваротна
памяць.
У бога прасіў дай што маеш даць
вазьмі што ўзяць маеш просіш.
Загоіць зямля
прытуляўся
загоіцца
сам туліў
бяззорнаю ноччу ў паўстанцкім лесе
і слухаў: варушацца карані
і бачыў: завязваецца дарога.
А лес быў тужлівы:
рыпеў і трызніў —
найпершы паўстанца на шыбеніцу найпершы
і гаманіў
напярэдадні
ноч
з табой
да скону вяртаўся
знайсці
не знайшоў
яно засталося
вяртаў паўстанне.
Ці ўсё зразумеў:
разумее лес
уладныя выпадак і прычына
а ты звышпрычынны і звышвыпадковы
не сёння
пачаў
не памёрлі
замову скончыш:
свой талент
народзіцца
не памярцвілі
не свой.

IV

У ненапісаным сёння чытаю сёння...
Збіраю ў адно
Багушэвіч
відушчых больш:
ты кожнае дрэва сачыў паімённа
заклятая скрыпка заклясці ўмела
паўторацца самі ў тваё дарэмна
Мацей і Сымон
а крыжы ў імя...
Занадтая мэта —
сябе не помніш
пісаныя па-беларуску лёс і нішто
даў талент і прозвішча бог:
Багушэвіч
лістота і зоры змяшаюцца ў дрэве —
а помніш ужо не сябе.
Дзе таленты множаць а дзе хаваюць
і голасу
помнік
не мае
на слове тваім
навобмацак
сэрца
тваё
карэнне
вяртаю лісты ў лістапад і завязь —
вандруеш у дрэве ля вечных дрэў.
Знішчальнае шчасце: дзе ты не парожне
казаць — не сказаць:
па-за мовай бог
(а недзе ўзіраецца ў цёмную шыбу той хто
пытаўся: дзе Беларусь...)
а Багушэвіч па-беларуску.
І ты быў усімі
сабрацца
каб дрэвам

збіраў
(...той хто адказваў: там дзе мяжа і мова)
дзе ўсе назавуцца: Мацей і Сымон
дзе ўсё перамесціцца: Беларуссю —
ты ўжо немінучы: быў...
З-пад
збераджоныя
неба
вачамі
абудзяцца
цені
святкую хаўтуры: уваскрасі
і цёмнай зямлі прысягні: вярнуся
як светлыя зоры калі сцямнее
у памяць якая мяжа.

## РАЗОРА

праступіць разора
праз твар і сэрца
калі напаткаю саму траву
разора ў абодва бакі —
у адзін араты
трава разглядае сваё карэнне
ніяк не спыню разору
праступіць карэнне
праз твар і сэрца
ніяк не спынюся сам
з абодвух бакоў разора —
а я ў абодвух
калі напаткае мяне трава
ніяк не разгледжу
свой твар і сэрца
араты ў адзін бок —
разора ў ніякі
трава напаткае сваё карэнне
супыніць сэрца мяне

## ЧЫРВОНЫЯ РУКАВІЧКІ

адна губляе другую
...атрута ў душы
і атрута ў целе...
разлучаныя рукавічкі
чырвоныя рукавічкі
зіма развядзе ў палаты
адна беражэ другую
я сплю:
пад падушкай чырвоная рукавічка

# КВАНТЭМЫ

* * *

шукаю перашкоду
год штодня
варушацца
патрушчаныя
цацкі

* * *

вадой хрышчоны
пойдзе
па вадзе
варожыць вір
ён знойдзе хто тапелец





## ПАЭМА ГАРАЧАГА ЛІСЦЯ

Ты назвалася *амяла*:
мая мілая —
не людская...
Зорка горкая нас вяла,
прывяла ўжо:
крывёй сцякае.

Ты *назвалася*...
Назаві —
засяроджаныя аўтапілоты —
ненароджанае...
Лезавы
наш прасцяг...
Не настане потым.

Неразгорнутых кніг тамы...
Што самое сябе баіцца?
Азіраешся:
«Гэта мы?..»
Гэта — бальніца.

Мы адзін аднаго аддаём.
Цемра цяжкая, нібы дзёгаць.
Апынулася неба дном:
дом —
у ім табе дапамогуць.

Голас голы:
не гавары...
Допыт ранішні і вячорны.
Гукі белыя —
павадыры.
Паскідаюць халаты —
чорна.

Я прарок твой:
цябе выглядаў,
я выходзіў да плота маліцца...
Смяг табою і галадаў...
А разгледзеў:
прыйшла бальніца.

Ноччу зыркаю, вешчавой
што абвесціцца? —
лезавое...
Херувімчык —
пазнаеш:
твой —
нахіляецца над слязою.

Твары цьмяныя насупор
узіраюцца:
смерці збыцца...
Запытаешся:
«Гэта сабор?..»
Гэта — бальніца.

Што настане?..
Услед пайсці —

бы напнецца паветра —
                                        не ўпусціць...
Ты ў гарачым маім лісці.
Я адцяты ад нас:
у пустцы.

Мозг раздрапвае вастрыё.
Урастае ў зямлю зямное,
а нябеснае не маё:
як замок —
прада мной... за мною...

Жыў Іполь...
Бы сцвярджаў абрад —
атуляў жываплотам поле...
Прывітаецца:
«Ты мне брат».
Развітаецца:
«Сні Іполя».

Я з вужакаю і савой...
Гавару сябе як цытату...
Ды ўсёй боскасцю —
сам не свой —
адчуваю,
                    што я адцяты.

Выбіралі:
куды ісці?..
Усё роўна з дарогі збіцца.
ТЫ Ў ГАРАЧЫМ МАІМ ЛІСЦІ...
Гэта — бальніца.

Я далоні складу замко́м.
Замыкаецца блізкасць збоем.
Безнадзейнасць глядзіць з вакон.
Нахіляешся:
што з табою?!

Уладар твой —
на дабрабыт
зараблялася:
раб вантробаў...
Ты мне рада...
сабе забрыд:
зарабляецца на хваробу.

Дні —
стракатае шкамуццё.
Ці скажу каму:
будзь мне братам...
Забівае мяне жыццё.
Выжываюць дэ-
генераты.

Нам няпроста.
Прасцяг крывы,
і пранізана блізкасць болем.
Іншароднае — у крыві.
Зорка цёмная
над Іполем.

(Перашэптваюцца жрацы...)
Ўваскрашу —
дзе ўзяць жменьку тлену?!.
Гай
святой
*АМЯЛЬІ*...
На шпрыцы
панаторкваліся антэны.

Рэжуць парасткі прастаты.
Бачу мозг свой:
мне ў ім адбіцца...
Перахрысцішся:
«Гэта ты?!.»
Гэта — бальніца.

ТЫ НАЗВАЛАСЯ...
Гледачы
разглядаюць сябе:
відоўня...
Ненароджанае —
ўначы.
Бы савіныя вочы —
поўня.

Адбіраецца мова:
                    смяг,
галадаў ёй,
а ўздых кароткі...
Нам няпроста:
крывы прасцяг...
Адцінаюцца ў цемру продкі.

Шлях —
            панылая кавяла.
Смерць накліканая
зайздросней.
ТЫ НАЗВАЛАСЯ *АМЯЛА*...
Выжываюць імхі і бросня.

Іншароднею —
не грашу...
Забываю,
            з якога роду...
...ШТО З ТАБОЮ?!.—
ў маю душу
ужыўляюцца электроды.

Замарожвае словы лёд.
Зоркі цэляцца,
                  як байніцы.
Здагадаюся:
«Гэта палёт...»
Гэта — бальніца.

Бы вужака ўзбуджаецца —
ртуць...
Будзе мозг мой
хвароба жэрці —
не жыхар,
затужу вярнуць
не сябе ўжо,
а нас ад смерці.

Што мільгала
ў душы і ўваччу —
уваскрэсіцца да драбніцы...
Ашаломлены,
прашапчу...
А пачуе мяне — бальніца.

Не світала —
зноў вечарэць:
час адцяты...
сляпыя кадры...
Адчаканена ў профіль смерць:
выліваецца
квадра ў квадру.

Сон —
скамечаная прасціна.
Цемра торгаецца ў задусе.
Ўсё названа...
Ўсяму цана...
Я пад імем тваім кладуся.

Твар прыцемнены
у вакне:
дзева-маці!..
А сэрцу біцца
у замкнёнае:
не адамкне...
Гэта — бальніца.

Адбіраешся:
не мая...
Клікаць буду цябе —
людскую...
Я на скальпелі вастрыя.
*Што*
        *ў гарачым*
                        *лісці*
                              *цікуе?!.*

ТЫ НАЗВАЛАСЯ *АМЯЛА*...

## АКНО

прачнуся —
бацька не спіць
нібы ў справаздачы якой —
раскажа
што бачыў на вуліцы
                              ў пяць
і што
      ў шэсць
а што
      ў сем гадзін

(куды вы глядзелі дагэтуль?!. —
                              хірург спытае)

у небяспекі староннi позірк

## КАРАЛЕЎНА-ЖАБА

наўскаскі вуліцам
паўз неабходны дом
які абмінаю
як іголка ў тваёй руцэ
шыецца каралеўна-жаба
не згаджаешся —
                              учарашняй:
...у каторай руцэ я з табой
а ў каторай з іншым...
у каралеўны-жабы голы жывот

# КВАНТЭМЫ

* * *

без роду продак
моліцца агонь
птах
пакідае
попел

* * *

звер між людзей
ён тоіцца
смак веры
небяспечны





## ПАЭМА ПАЛЯВАННЯ

Новая мова сатрэ старую... Але ў кароткім прагале на даўняй стужцы, між тым, што запісвалася і сціралася, узновяцца некалькі слоў раптоўных, некалькі слоў паляўнічага Сурмача (вёска Сялец, Грудок), слоў, абарваных адсюль і адгэтуль: ...трое ваўкоў уцэліў...

Ты мне гаварыў, на мяне спадзяваўся: у стужкі мёртвая памяць... Бы дрэва сагнёнае вырвецца ўгору — гучыць твой распростаны голас, гучыць ува мне твой голас — узноўлены і жывы.

Сурмач: ...іду па сцяжыне, пратоптанай да мяне,— звярынай, ем хлеб, замешаны да мяне,— цялесны, кажу словы, гавораныя да мяне,— людскія, разважваю думкі, якія — пытанне: калі свет весці — што весці, калі ісці за светам — за чым ісці?

Стаю ля парога тваёй тынкаванай хаты, выйдзе сівая жанчына, кавенька ў руцэ, паўзіраецца пільна, скажа: ...я не жонка яго — сестрыная заступніца (хто заступае... хто замяшчае.— Аўтар)...

Свая — не свая: чыясьці... Свае — не свае: чые мы? Дзіця назаве свайго бацьку і маці, старыя — дзяцей, а жанчына — мужа... Ты — сам, а яна заступніца... Чые мы, калі свае, чые мы, калі — заступнікі?.. *Чый* паляўнічы і *чый* пастух?!.

Нібы выпадкова з табой сустрэўся, нібы выпадкова расстаўся: жыццё, перажытае ў тры адвячоркі, усе жыццяпісы змяшчаюцца ў тры адвячоркі і ўсе абарваны адсюль і адгэтуль...

*Быў паляўнічы і быў пастух.*

*Аднойчы, калі паляўнічы вяртаўся напуста, угледзеў авечку з гурту. Сустрэча як падарунак... На што паляўнічы палюе?..— на цела... З гурту авечка, аднак яна тое, таксама тое, на што ён палюе — цела.*

Як помніш сябе — нехта быў над табой: бацька найблізкі, а потым вёска, а потым неба,— сачылі: так — можна, а гэтак — не... А потым — вакол азірнуцца — нікога: ты сам сабе гаспадар...

Да лесу ішоў, не сцярпеў, узышоў на ўзгорак, прыцэліўся ў самае вышняе — неба, апошняе — неба, у самае сэрца неба... У каго ты страляў? — папытаюць людзі. Я неба, адкажаш, я неба забіў...

*Што не ўпільнуе пастух — паляўнічы пільнуе... Губляць аднаму — набываць другому, адзін мае ўсё, а другі паступова, пасвяць абодва, ды ходзяць розна: дзе хоча — адзін, але ўслед за гуртам, дзе хоча — другі, і таксама ўслед...*

Сурмач: ...я шмат парушаў... Шанаваў парадак... Хату паставіў і плот паставіў, у хаце парадак, і на двары парадак, і гэта парадак мой. Я парушаў, бо меў свой парадак, і ўсе парушалі, бо мелі свой...

Не застаў цябе ўдзень — адвячоркам застану: не позна... Не позна лісту зелянець і заходзіць сонцу, не позна заўважыць кавеньку ў жанчыны, не позна ісці і не позна весці... На тры адвячоркі я твой заступнік, тры адвячоркі збіраем змест.

Супольныя сцежкі, супольны хлеб: каб даць, каб узяць, і супольныя словы: прасіць, запрашаць, і супольны змест, а змест узаемны, а змест: чые мы?!.

Хата твая, а цябе няма: заступніца ля парога... Дзе гаспадар ваш?.. Яго няма — ходзіць за нас абоіх. Што я з сабой зраблю, ён што з сабою зробіць? Ён ходзіць па днях — я па днях чакаю: што зробіцца — тое будзе...

*Пастух прыйшоў потым — услед прыйшоў. А мусіў быў не прыходзіць... Ты сам вінаваты,— сказаў паляўнічы,— ты сам... А ён, бы пра іншае думаў, бы іншаму некаму, гаварыў: ніхто не павінен памерці... ніхто не павінен згінуць... ніхто не павінен дажыць да смерці...*

Усім ты расказваў — мне раскажаш, як на світальнай паляне — світальны лось... Быццам здзіўленне тваё — нерухомы, быццам сумненне тваё — небяспечны... І каб парушыць здзіўленне, каб болей не сумнявацца і ўжо нежывому верыць!.. Сэнс ведаў і веры сэнс...

Плодзіцца гурт, а для страты мала. І паляўнічы — супернік: адбіць... пераняць... апярэдзіць — і смерці і пастуха... Плодзіцца гурт і не чуе жаху, што плодзіцца не сабе...

Сурмач: ...я раскажу пра вавёрку — як лапкі складзе, нібы просіцца, і пра казулю з малым казлянём: было да мяне прыстала, і пра тхарыныя норы, і пра ваўкоў... Хто мне пра мяне раскажа?.. Так пэўна з усякім зверам: імя — і натура, так з чалавекам няпэўна: а ўсё чалавек...

Вар'яцкі працэс... камбінат вар'яцкі: бог — у пачатку, а паляўнічы — ў канцы, бог пасылае з ніштo істоту... *ніхто не павінен дажыць да смерці...* а паляўнічы — ўпадоблены богу — вяртае ў нішто...

Ад лесу да хаты — тваё блуканне... Блукаў — спадзяваўся: на нешта, а набрыдзеш, хоць некуды, але выйдзеш... А гэта ў табе адкладаліся сцежкі і глухамань, а гэта цябе пазначала твая чалавечая доля.

Пазначаны доляю звер: як бы заяц ні петліў — вяртаўся ў ранейшую схову, і не адужваў праз шкамуткі абложныя вырвацца воўк, і жаба, верашчучы, скакала ў пашчу змяюкі: упаляваным выбіцца...

*Чаму ты забіў яе,— што адкажаш? Што ні адкажаш — усё не так, што ні адкажаш — ці процi сэнсу, што ні адкажаш — ці процi сябе... І адказаў паляўнічы процi: тут сэнс немагчымы... тут сэнс непрыдатны...— ніхто не павінен дажыць да смерці...— тут сэнс, нібы куля і нібы лязо...*

Сурмач: ...бягу між платоў, а мяне лавілі, я — хлапчуком, а з двара — гаспадар... І ходу няма мне, прыціснуўся толькі да плота і енчу насустрач: я добры... я добры... Спытайцеся ў мамы: я добры... Колькі разоў мне хацелася потым — бы некаму... некуды...— крыкнуць... крычаць безвыходна: спытайцеся ў мамы — я добры быў...

*Ага,— меркаваў паляўнічы,— здаецца, я*

*адказаў някепска... А хто вінаваты?..— каго няма... Каго няма каля гурту, хто гурт пакінуў, адбіўся ад гурту...— таго няма. І запыніў сабе гурт пастуховы — беспастуховы гурт... Як спраўна пацэліў: увесь гурт мой, увесь гурт прыстаў да адной авечкі.*

Адразу за вёскай, нібы падзяляецца вёска, будуецца новая вёска, новая хата і новы двор... Ці хочаш наноў нарадзіцца?!. Наноў нараджаюцца ў новай вёсцы, наноў сустракаюцца ў новай вёсцы, і ўсе — сваякі...

Была ў цябе скрынка: збіраліся грошы ў скрынцы... Усе пералічаны і стасаваны — гурт падуладны... А потым гарэла на вогнішчы скрынка, дымам і прысакам твой набытак: глядзеў неадрыўна і ўжо не цяміў, што пагасала ў агні...

Плакаў?.. не плакаў?..— памерла, хварэла... так рана... жонка... Завезлі за Кавальца (хата Кавальца крайняя ў вёсцы, за ёю — могілкі.— Аўтар)... Позна... не позна... а жыў далей. З новымі грашамі новая скрынка, жонка — заступніца, сам ты і сам заступнік, пэўна, самога сябе заступіў...

*Назаўтра ён выгнаў на пашу і пасвіў той гурт, як пастух дагэтуль... І думаў сабе: а што ўрэшце змянілася — гурт не змяніўся... Турбота аб гурце, а гурту ўсё роўна, хто ля яго за ім...*

На што спадзяваўся: на стрэльбу... на ўдачу... на свой парадак...— а нібы ў табе парушалася нешта: парушыць — тады адчуць... Ужо не ў цябе твая стрэльба, а нож паляўнічы ў шуфлядзе: чым быў багаты — як цень на лёдзе, і ўжо сабе замінаеш у будучыні сваёй... Надзеі — парушыўшы, думкі — парушыўшы, *парушыўшы — чалавек...*

*Дзе гурт — там пастух, паляўнічы ўсюды... Прыйдзі... занядужаў... за гуртам панаглядай... Тады не прыйшоў паляўнічы: маю сваю турботу, а сёння ідзе за гуртам: адпачывай, маўляў...*

Сурмач: ...хіба я хацеў нарадзіцца — мяне нарадзілі... Самому сабе не знаёмы — ачнуўся... Але датыкалася сонца знаёма, знаёма дождж шапацеў...

Я доўга збіраўся — сабраў бяздонне: заплюшчыўшы вочы, мне коратка падаць праз дождж супакойны, зялёнае лісце, сліпучае сонца да рэшты такой не знаёмай... Хіба я хачу памерці — мяне памруць...

Ёсць жорсткая літасць — правіла палявання: дабіць пакалечыўшы, параненага — дабіць... Жыццё засяроджана ў позірку звера, і ты па вачах — каб заплюшчыць вочы... А потым раскажаш: ...ужо ён не гаспадар...

Так надзвычайна-проста: і ён быў жывы... І ён быў жывы тым простым і тым надзвычайным, чым ты... чым усе...— жыццём... Не звера забіў: звер ляжыць і разбіты позірк... Самому сабе не адкажаш: што я зрабіў?!

Уладны над жыццямі іншых, ужо над сваім не ўладны. Так доўга змагаў — і зможаны, так доўга жыццё спрыяла — нарэшце шкодзіць, прасілася — смага, давалася — смага, і змест чалавека, як нейчы змест...

*Каб жыў быў пастух — што пастух сказаў бы?.. Ён бы парадаваўся, што пасу... Не варты аддзякі, пасвіцца гурт як дагэтуль, а паляўнічы — нібы пастух... Дык хто я... дык хто я цяпер уласна: ці гэты ці той ужо?!. А гурт прыпыніўся — і жах!..— заблёкаў...*

*а гурт прыпыніўся, а гурт заблёкаў: заступнік... заступнік...— заблёкаў гурт.*

Трое ваўкоў уцэліў... Трое ваўкоў уцэліў... Трое ваўкоў ты ўцэліў — ніводным не пакарыстаўся: то зносіла плынню, то зацярушвала снегам... Трое ваўкоў уцякалі ад смерці — усе ад цябе ўцяклі...

Каторую сцежку ідзеш за імі, каторыя нетры разблытваеш, і нельга нічога парушыць: паклаліся кулі трапна — быццам сваяцтвам цябе звязалі: не разарваць...

Пастух, што пакінуў гурт дзеля адной авечкі... Што іх звязала мацней, чым кольkасць, што іх мацней, чым карысць, звяло?! Двое ад гурту: сцвярджаючы страту... Двое ад гурту: сцвярджаючы шлях...

Сэнс ведаў — сумненне: разблытвай і сачы... Сэнс веры — каб не ўсумніцца... Разблытваеш нетры, чытаеш сцежкі — бы цягнецца доўгая-доўгая стужка... Сэнс ведаў і веры сэнс...

Гэй, Сурмач,— спыняецца лес над табою. А ты і забыўся, дзе ты... Па многіх дарогах, па многіх змярканнях ідзеш, каб нарэшце сабрацца разам, нарэшце прачнуцца, нарэшце пазбыцца свайго блукання: калі чалавек памірае — што памірае?.. Бы скінуць кашулю — пазбыцца смерці: калі паміраю *я*, а калі — *маё*?..

*Тады адшукаў паляўнічы, што быў паляўнічым, што стаў пастухом — пастух, два роўныя камені, два амаль роўныя камені і высек на першым: заступнік (хто заступаецца... хто бароніць), і амаль роўнае на другім...*

Сурмач: ...я жыў, як усе — ўпершыню і раптам. Што я з сабой зраблю: ўпершыню... Збіраўся жыць доўга — само зрабілася, ця-

пер азіраюся: нехта жыў... Магу паўтарыць парадак, жыццё сваё не магу...

За корч-другі бульбы забілі салдата, яго б накарміць, а яго забілі: першая куля ў спіну, а другая — ў паветра... І — гуртам цябе абступаючы: бачыш занадта, занадта чуеш, занадта старанна разблытваеш сцежкі, каторымі людзі ходзяць...

Ты ім здзіўляўся: такія сцежкі... Ты ім тлумачыў пра трох ваўкоў, пра ўпаляванае мноства, што разбрылося: быў валадар іх, цяпер падуладны, быццам загадваюць — так ідзеш...

Пастух — над жывымі, над мёртвымі — паляўнічы... Жывыя палічаны, мёртвыя — не... Жывыя — у гурце, і мёртвыя ў гурце, у страчаным гурце, сабраным гурце, там, дзе прызначыўся камень твой.

Не ўсім ты расказваў — мне раскажаш пра крыўду сваю: засудзілі з намовы... І тут паляванне, і тут ахвяры, і тут паляўнічыя мелі верх... І ты быў загнаны, здзіўляўся толькі... толькі сцінаўся (я добры... я добры): як можна так!..

Хай бы звяры — вінаваты прад імі: так, вінаваты, але прад звярмі... Перад зайчыхай, якую забіў у пачатку сезону — чакайма з сезонам!..— ніхто не паслухаў — а сочыцца малако...

Так, вінаваты... Быццам па праву — хадзіў на драпежных, быццам па праву — утаймаваць... А недрапежныя — так ішлося — а недрапежныя самі на стрэл ішлі...

Так, вінаваты...— судзілі з намовы... Гінуў з намовы: утаймаваць... Трызніў з намовы: людзі, чаму вы такія, людзі?! І клятву даваў...

Застаўся жывы — і пацвердзіў клятву:

самага ненаеднага на ўсе разы накарміць... (А ён адгукнуўся...) Як звера, яго ты высачыў, як звера, узяў на цэльнік, як звера...— каб не напудзіць, а рукі і здрыгануліся: на звера... упершыню... (А ён адгукнуўся на людзях дзіўна: цяжка, хай б'е...)

*Тады адшукаў паляўнічы, што быў паляўнічым, што стаў пастухом — пастух, два роўныя камені, два амаль роўныя камені і высек на першым: заступнік,— амаль тое самае, што на другім...*

Быццам вяртаешся — пазнаецца, усё, што адвольна паклалася ў крок... Мноства на дрэве лістоў неадрозных, што адшчыкнулася — бачыш раптам... Мноства — у гурце, а што ад гурту — раптам трапляецца: бо — услед...

Па блытаным следзе, паспешлівым следзе ідзеш, і вярэдна: развязваеш след...

Хадзілася скрозь, а цяпер — напэўна, услед за сабою, і ты не звер...

Што кружна і ўпарта — становіцца проста, дзе пуста было — узышлі камяні... Ты жыў на зямлі і нічога не помніў, што сосны за вёскай шумяць, не чуў...

Услед за сабою — не паляўнічы, ідзеш і знаходзіш: усё тваё... Ідзеш — даганяеш, яшчэ хвіліна — развяжаш і знойдзеш: хацеў любові, а помнячы — любіш сам... Яшчэ намаганне...— ачнешся раптам, заступніца выйдзе з хаты: ты ля парога свайго...

Што азначаеш ты *тут*, дзе набытак — цела, дзе смага як змест, як заступніца — смерць?!. Дзе, калі гінуць, просяць аб літасці, калі забіваюць — не помняць літасці: першая куля ў спіну, а другая ў паветра, доўгія віны ў адну віну?!. Што азначаеш ты

*там*, дзе крывавіць неба, *там*, дзе ўцякаюць ад смерці твае ваўкі?!.

Сурмач: ...ніхто не пытаўся: чыё гэта сонца, ніхто не пытаўся: чые гэта дрэвы, калі дрэвы цвілі... Я пайду і нічога больш не парушу: ты, сонца, свяці-свяці, ты, лісток, зеляней... Нехта вырашыць: на паляванне, нехта вырашыць: з палявання, нехта вырашыць: проста так...

## У БЕЛАЙ КАШУЛІ

на белы пясок апускаюся ніцма
нарэшце апынецца крык без птушкі
намацваю зблізку а ён бліжэй
у гнёздах вачэй маіх бела
і птушка пільнуе чым скончацца сцежкі
бягу а яна мне ўпінаецца ў зрэнкі
і гнёзды ўпінаюцца ў ногі
чым скончыцца выспа
кашулю вар'яцтва тчэ белая птушка
не ўмею знайсціся
нарэшце апынецца неба далёка
калі празрынаю — слепну
а смерць не гаворыць мне: годзе
не ўмею згубіцца
у неба ўпінаецца бег напяты
не ўмею за некага вымавіць: годзе
кашулю збавення тчэ белая птушка
я ў белым імгненні
чым скончыцца смерць
пільнуе збавенне што вытчацца ў сцежках
спачатку ніводнай пасля адусюль
на белы пясок апускаюся ніцма
шапоча пясок у птушыным шэпце
нарэшце апынецца шэпт без гнёздаў
калі празрынаю — слепну
а белы пясок мые ногі мае

## КІСЛАЕ МАЛАКО

у немінучых словах
мікроб адкрые
кубак падсунуты да сябе

...адкрыюся ў немінучым
мной назавуцца словы...
кубак адсунуты ад сябе

## КВАНТЭМЫ

* * *

гаворыць чалавек
...не для сябе
я той хто сам...
крумкач над галавою

* * *

я адымаецца
шчыльнеюць рыштаванні
чысты час

# 8

## УПОЦЕМКАХ, З ЛІХТАРОМ

(п а э м а)

I

Слалася на лугі,
на сцежкі
белае мліва.
У снега прысмак тугі:
ён мамаю асаблівы.

Ён асаблівы мной:
блукаю ў яго завеі...
Снег —
скрушнаю навіной,
якою —
не разумею.

Якою...—
растануць сябры:
стану для іх старонні,
быццам збаяцца пары —
разгойданага прадоння.

Снег —
              проста снег —
быў наш,
луг —
          толькі луг —
агульны...
Завея — развадыяш:
мне ў ёй асабліва ўтульна.

Даверуся —
                    замяце,
засцеражэ ад злуды...
Заклятая ў немаце,
што выкажа —
не забуду.

(Птушкі —
                 падзёрты шнурок,
а пакідалі ззянне
і неба, як шаргунок:
пакінулася запытанне...)

Водгалас...
водспеў...
уздых
з-за разнасцежанай брамы...
Я быццам ведаў іх:
а найглыбейшы — мамы.

Поры людскія — ў век:
якая пара —
                    зімою?!.
Мама ля мёртвых рэк:
я асаблівы ёю...

Мама ля зябкіх лоз,
як вываратняў калекіх,
ля насцярожаных лёз —

мроіцца —
небяспекі.

Прадбачу яе —
маю,
у вечнай пары —
такую...
Сюды настае:
стаю —
мама ўва мне смуткуе.

(Кветкі,
а касмылі
завейныя:
не адбалела
лета,
калі цвілі...
Узор дасканалы — белы.)

Што болей мне:
я сустрэў —
і болей мне лёс не пагрозны...
Ад невідушчых дрэў
ужо сябе не адрозню.

Снежыцца ў вочы, ў твар...
Сутонне... Абсяг жабрачы...
Бляклa мільгне ліхтар:
мама ідзе —
пабачу.

II

Пракінуся:
ў цёмныя рамы
узбуджаны перапад...
Выходзіць за дзверы мама —
мама, калі назад?!

Адна яна...
увек...
надзея —
без роздыху,
без пары
(дзень нараджэння днее)
на вёскі і хутары.

Што люба —
на свет,
што не люба —
прытояць рака і лаўжы...
(Згушчаецца ноч загубы):
спяшаешся —
памажы!..

Ці вытчацца з лет і зім
кілім,
нібы сненне,
пухам —
найроднейшая ўсім:
доктарка-павітуха...

Табою споўніўся лёс,
мной —
вострае паўтарэнне:
палохае скрыгат калёс...
цяжыць тваё карэнне...

Час завязаўся ў паўтор:
жорстка зацягнуты прэнзлі...
Воз уязджае ў двор —
бацьку майго
прывезлі.

Самі сабе свой суд
прытоім:
прапойца... пустэльга...

Дарога звязалася ў скрут,
а развязацца нельга.

Сціснецца выйсце ў сіло,
сцежка ўпадзе на схіле...
Коратка лета цвіло:
плачацца —
у бяссіллі.

Плачацца: вечны раз...
З пагубных рук бацькі
таропкі
гарлач...
над табою...
ў абраз:
абрынуцца ачаропкі.

Ні меры ім, ні цаны:
маленькія людзі —
суддзі:
якімі будуць яны?!.—
вязні:
што з імі будзе?!.

Далеччу дол акрыты,
і неба, нібы гара...
Мамачка... ма...—
куды ты?!
Цёмна без ліхтара.

Сонца высокага —
досць...
Нізкае —
на расстанне...
Віною мне —
мама ёсць,
большаю —
што не стане.

Табою жыву ў зямлю...
Неба не свеціць —
засціць...
Навучаны, не дзялю:
надзелена стратай шчасце.

Мама,
наведаем снег,
барвовую аблачынку...
Закружаны кругабег:
мару аб адпачынку.

III

Вострая зорка весніць
заплаканую зіму...
Ціхія скаргі весніц
настойлівыя —
каму?!

Ужо ад зямнога злёку
не вылечыцца:
гібей...
Спіцца —
бы скон, глыбока,
не спіцца —
яшчэ глыбей.

Штыкеты брыдуць мяжой,
трызніць асвер пры хаце...
У студні —
тады чужой —
ўтапілася маміна маці.

Нібы прадказала двор —
сюды
пераедзем потым...
(...Пнуцца звяры ў калідор...

Бандыты
стаяць за плотам...
Схавацца —
у цёмную печ,
шапа глухая —
прытулам...
Дочачка, не пярэч:
я бачыла іх,
я чула...)

Балесная,
у жары,
сышла з-пад нагляду —
ў нябыту
ратунку прасіць:
звяры
не трапяць...
не знойдуць бандыты...

Лёс...—
не пазбыцца...—
шчыт...—
бароніць...—
гняце...—
каменны...
Сумеецца варажбіт:
заклён на чатыры калены.

Не выявілі...—
у віну:
маўчаць сваякі па-сваяцку...
З хатаю...
хворы...
ў вайну
звуголіўся мамін бацька.

Клікалі —
бы здалёк

зірнуў,
не падаўся ўпрочкі...
Хлеб ля яго, збанок,
ліст ад Надзеі —
дочкі.

Ля жорсткіх дзвярэй
(на вякі
клямка на іх наклана)
прыпыніцца...
Сваякі
забудуцца — дзе пахаваны...

Які ён, падземны гай?!.
Адзіны:
бяздонна...
плытка...
Мама, не ўспамінай:
не мецьме яна забытку.

Штодня —
па бяду ад бяды,
па каласы ад пожні —
ці выйдзем адсюль куды?!.
Я пасля мамы —
апошні.

IV

Свет разнасцежаны — дом...
Сцежка заціснута ў тронках.
Лета цвіце,
ідзём —
мама, куды?! —
ў рамонках.

Пачуецца — а не ўслых:
бы адазвуцца бомы...

Мы — ад усіх...
да ўсіх...
Мама, куды?!.—
                    дадому.

Воблакі ўсё гусцей,
ветрыцца пацяруха...
Дзеці малююць дзяцей —
я намалюю скруху.

Вялікі расці!..
Куды?!.—
у ростань...
            надзею...
                    страту...
Каменныя гарады
зачыняцца ў інтэрнаты.

Сумесна —
а чужакі,
агулам —
а разнародна,
людзі і глыжакі:
пагодненыя нязгодна.

Староннія манастыры...
Далечыня — распяцце...
Быў юны, не быў стары:
не будзе мяне на свяце.

Хто іх саджаў...
Хто сек?!.—
вязы паўстануць струнка.
Не выкажашся праз век:
...марна, няма ратунку.

Сустрэліся на зямлі...
Уцягнутым у вандроўку

ці здарыцца дзе калі —
найродным —
сустрэцца зноўку?!

Сцежкі залом і звіх...
А побач,
надзейней, чым сковы,
адзіныя — удваіх:
хто побач абавязковы?!.

Суцішны яе адказ
(што я даводзіў маме?!.):
хочуць рамонкі і вяз —
як мы імі —
споўніцца намі.

Задумаюся —
няўцям...
Сцежка цішком звузее...
Мама,
чаму я сам?!.
Вырасту — зразумею...

У агонь апраметны —
з агню...
Не хопіць сябе —
ў падучым
моманце прысягну
душою тваёй:
ці балюча?!.

Спаборнік мой спор нажу:
сам ранюся...
родных раню...
На споведзь —
адной —
скажу —
я маме —

прыеду —
ўранні.

У дзённым пярэдыху —
шляк
вярэды...
Ад'еду пад вечар...
Выведзе моўчкі на шлях:
што скажа, што не —
дарэчы.

Атручанае сцябло...
Дрэвы лясам зайздросцяць...
На знос... на праспект...—
што было
па чалавечым росце.

Звіхнуліся пазванкі —
дыскрэтныя кіламетры...
бяссувязныя званкі:
цэнтр чалавечых нетраў.

Губляюцца адрасы...
Ціша плыла — здранцвела...
Бы трэшчыны, галасы:
моўчкі —
незразумела.

Ноч выб'ецца з чарады,
сонца заледзянее —
з чым правядзеш тады,
мама мая —
надзея?!.

Апошні крок
зойме змрок,
першы —
ў параненым ранні...

Задзівімся ў пасмы аблок —
рамонкамі
ў дні прыстанем.

V

На момант —
а прыпыню...
З'яснелае лісце гаю
глыбока,
нібы радню,
маму маю ўхінае.

Мама,
у той старане
плачацца і нішчымна...
Мама...
Яна зірне
так раптам —
адтуль —
вачыма.

Надзея Іванаўна...— дзе?!
Надзея —
атрутны трунак...
Птушкі пільнуюць людзей:
дам зерня —
хто паратунак?!.

Неба не праміне:
будзь — моцнаю,
будзь — слабою...
А рысы твае пры мне
жывыя перад табою...

Воблакі — уваччу,
адчулі бяздонне вены...
Мама,
я не хачу

табе заступаць
узамену.

Птушка хісне крылом,
кінецца ўгору матлошна...
Весткаю —
першы гром,
дрэва ўпадзе —
апошні...

Хто завязаў трывала
роды людскія
ў чаргу?!.
Мама —
уберагала,
маму —
не ўберагу...

За рамаю —
год пярэсты:
ветах вісіць трунай...
Якіх не хапіла вестак?!..
Ад мамы...
пра маму...—
адной.

Двояцца людзі —
зрэдзь
спаткаемся,
а найболей —
адзінства не зразумець:
рамонкам цвіцецца ў полі.

Двояцца...—
для пары,
а век паяднаны разам...
Пахмурыцца — угары...
Крамяна яснеецца вязам.

З сабой не бярэш —
сама:
абое — да раздарожжа...
Буду чакаць...
Няма...
Мамы не быць не можа.

Мама!..—
яна між стром...
Мама!..—
між буралому...
Упоцемках, з ліхтаром...
Мама, куды?!.—
дадому.

## ВЕСТКА

дасканаля і зграбна
назваць не змагу
на паверхні
некалі выплыве мёртвая рыба
з весткай пра небяспеку:
што назавецца — гіне

## ШАПКА

адхукаю — адпускаю
потым знайду іх зноў:
шорсткі шарон
а шапка
для неадхуканых пчол

## КВАНТЭМЫ

* * *

іржавы жвір
што
ловяць
нараджэнні
умуравана вежа ў засцярогу

* * *

насенне самародзіць
помніць вырай
рай унутры



## ДРУГАЯ ПАЭМА ШЛЯХУ

Я ў хаце быў —
у ёй чакаю:
сам
знайшоўся ў ёй, а часам забываўся,
і крэсліў рыскі ў шэраг на сцяне
і назіраў, як адхіляўся промень...
Хто ў хаце быў дагэтуль — быў са мной,
я не лічыў іх, ведаў іх па-свойму:
іх тут няма...
яны бліжэй за ўсіх...
нябожчыкі яны...
бліжэй, чым побач...
пайшлі, не растлумачылі куды...—
а часам забываўся, што чакаю.
І промень адхіляўся неўпрыкмет,
і цішыня хавала таямніцу...
Або яны забыліся на ўсё,
або, куды ісці, я сам забыўся —
і вось яны чакаюць дзень і ноч

і крэсляць засяроджаныя рыскі,
і без мяне спаўняецца мой шлях...
Я ведаю пра іх невідавочна.

Самому не ўваскрэсці — сам жыву
з сябе самога,
бы з сябе выходжу,
штодня на рыску большы: шмат мяне,
пачну лічыць — не далічуся.
Сонца
мне шлях свой прапануе: ім жыві,
спаўняйся ім, у іншым — таямніца...
Я ў таямніцы: хто знайшоўся ў ёй —
захоўваецца ў ёй і — прыпыніся —
не аб'яўляе сонцу...
Споўню шлях —
тады скажу...
Нябожчыкі чакаюць...

У лахманах і ўскліках — не сюды,
наперадзе труна і вечка ззаду,
ішлі...
Я выбег... вынес ім вады...
Не захацелі піць
і прыпыніцца
адмовіліся,
толькі папыталі:
скажы, ты мусіш ведаць —
наша нам
вісіць над галавой, ты ў іншым сонцы,
ты ўжо прыйшоў, а мы яшчэ ідзём,
нябожчык наш, з табой няма нікога,—
ты мусіш ведаць:
што такое шлях?!.
Я прамаўчаў: не ведаў, што казаць.
Хацеў ісці за імі,
але нехта
мяне спыняе: пачакай,

мы самі вернемся і ўсё табе раскажам...
Я заўважаю: гэты чалавек
інакшы, чым усе...
ён мне вядомы!..
ён блізкі мне!..
У жаху я маўчу,
я заўважаю: у труне парожне.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Уваскрасаць — усім уваскрасаць,
пакуль не ўсім — і шлях не канчатковы...
Дзе чалавек, якога тут няма?!.
Сюды прыкіраваліся, быў іншы
іх крок — бы выпала, што іх вяло...
Дзе чалавек, якога я чакаю?!.
Хачу адрозніць: ён быў між усіх,
усіх перабяру — не напаткаю...
Мне штосьці замінае:
быццам стаў
ён, як усе, за ўсіх схаваўся,
ці часам я забыўся:
не сюды
прыйсці ён мусіць...
Што мне замінае?!.
Мо шлях... мо сонца (што такое шлях?!)...
Найболей шлях, бо ён не канчатковы,
ён у пярэдадні —
ніхто не бачыў дня...
А па сцяне нямыя чалавечкі
ідуць-ідуць:
я ўмею гаварыць.

...Нябожчык быў між нас,
прыкідваўся жывым, а быў нябожчык,
ён слухаў нашу мову і сачыў,
ці доўга нам ісці, па нашым сонцы.
А сонца нерухома, як павук,
трымала нас і ўжо не разумела,

чаго мы хочам,
з-за чаго ідзём,
чаму нідзе не можам прыпыніцца.
Бы крыца, спёкся дол: больш не прымаў
знямогі нашай,
не даваў больш моцы,
абпалены быльнёг рос навакол,
не рос — чарнеў: даткнешся—шалахнецца...
Вар'яцтвам патыхала,
горкі пыл
сядаў і падымаўся неахвотна,
курыўся дым,
нямыя міражы
вагаліся на жоўтым даляглядзе...
Нямых і перамененых — сябе
у іх мы бачылі і ўжо не разумелі,
чаго мы хочам,
з-за чаго ідзём,
чаму нідзе не можам прыпыніцца.
Нябожчык быў між нас,
ён гаварыў
на нашай мове, але чуў чыюсьці,
сачыў па нашым сонцы за сваім...
Між чалавекаў, быццам чалавекі,
нябожчыкі жывуць —
і невядома,
хто мы, а хто не мы, ўжо нам самім,
аднолькава — пытайся — кажам: я,
аднолькава дапытваемся ў іншых:
хто вы такія,
як сюды прыйшлі...
Звычайныя ў звычайным, хто сапраўдны,
а хто прыкінуўся — нам нельга зразумець.
Пасля заўважым, што і ў кім не так:
далей глядзіць, задумваецца болей,
пра што — спытайся,
скажа: ні пра што,
або ўзмахне рукою: не пытайся,

я быў цяпер, дзе будзеце пасля,
цяпер я з вамі — будзеце са мною...
Нябожчык наш:
хто зводзіць, той вядзе,
нямыя міражы, а ён тлумачыць,
чаго мы хочам,
з-за чаго ідзём,
чаму нідзе не можам прыпыніцца.
Адзін бяздонны дзень, а нашы дні —
каму казаць: вазьміце і аддайце...
Хто быў між нас — цвярдзіў і суцяшаў:
шлях давядзе,—
запэўніваў нас: дойдзем...
І мы казалі ўслед, нібы заклён:
шлях давядзе і знойдзе, хто нябожчык —
вазьміце дзень, аддайце нашы дні...
Хто быў між нас — аднойчы прыпыніўся...

Я прагна слухаў,
вецер варушыў
іх валасы,
скарбачаныя боты
паскідвалі,
хадзілі па траве,
пілі ваду,
паклаўшыся, ляжалі
аднолькава, на ўзор...
Я зразумеў,
яны ідуць, яны яшчэ прыходзяць,
яны яшчэ — дагэтуль — не ў сабе...
Дзе мусяць апынуцца неўзабаве?!.

...Хто быў між нас, прыйшлі, сказаў,—
усё,
я сам сябе шукаў і вось знайшоўся,
нябожчык — гэта я,
я зразумеў:
нябожчык — гэта я, а вы жывыя...

Мы выкапалі яму і на спод
услалі быльнягу,
ён развітаўся:
дагэтуль я маўчаў, я быў такі ж,
мне заставацца тут, а вам вяртацца...
Мы так ішлі, мы выйшлі ў новы час,
у першы дзень,
а прыйдзеце дарэшты —
забудзьце, што я ёсць і што няма,
што гаварыў, што вы мне гаварылі,
чаго хацелі,
з-за чаго ішлі,
чаму змаглі нарэшце прыпыніцца,
што я без вас,
што вы ўжо без мяне,
каб споўніцца нябожчыку — забудзьце...
Мы разумелі:
так і мусіць быць...
Мы абяцалі:
споўнімся таксама...
Ён сам лёг у труну,
не пазіраў
вакол сябе, а ўстроміўся у сонца —
і сонца крыважэрна, бы павук,
уздрыгнула...
Мы вечка апусцілі,
а потым і труну: у яму... ў дол...
і быццам баючыся, каб нічога
не перашкодзіла,
паспешліва зямлёй
закідалі таго, хто быў нябожчык.
...Мы ўсё табе сказалі —
ты між нас...
ты іншы нам...
нічога не схавалі...
ты нам вядомы...
ён цябе знайшоў...
Захоўваецца ў іншым таямніца...

Я моўчкі плакаў, а яны пайшлі,
ад іх прастаўся шлях,
вяло іх сонца,
ім дрэвы зеляне́лі,
ручаі
звінелі ім,
памерці і ўваскрэсці —
быў сёння першы дзень —
яны ішлі,
накрэсленыя мной —
я дачакаўся...
я слёзы адхінаў...
Быў першы дзень.

## ПАДМУРАК

насычана ціша жалезам вострым
прашчуры ў цішы
навостраны маладзік
будзіў — дабудзіўся
спявае певень
прашчуры завяшчалі
ў падмурку схаваны сон
навострана ціша жалезам спеўным
завешчанае падмуркам
абудзіцца маладзік
ціша спявае і ціша будзіць
ахоўваюць прашчуры пеўнеў сон

## АКУЛЯРЫ

праз акуляры:
ніводнай карціны не для сябе
і для сябе ніводнай
...што бачыць у змроку сава
чаго б я не бачыў...
карціны ўбіраюць змрок
праз чуйныя акуляры

## КВАНТЭМЫ

* * *

прышчэпленая памяць
зноў цвіце
старая дзічка
ломкія маланкі

* * *

завершаны абшар
начую ў снах
з-за небакраю
дзівіцца
слязіна

## ШЛЯХАМ ПОШУКАЎ

У студзені 1966 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» былі ўпершыню надрукаваны вершы Алеся Разанава. Газета паведамляла, што аўтар яшчэ вучыцца ў школе. Але што гэта былі за вершы! Проста не верылася: адкуль у паэта-пачаткоўца такія ўпэўненасць і напорнасць, нацэленасць на адкрыццё і пошук, выразнасць і спеласць слова?

Першы ж верш у той публікацыі меў назву «Пошук» і адразу звяртаў увагу маладой памкнёнасцю і дзёрзкасцю, набранай вышынёю:

А шлях раўнюткі, быццам
лісцік,
ляці —
каб вецер у вушах!..
Як гэта лёгка памыліцца
і па чужых
пайсці шляхах.

І былі ў гэтым вершы крылатыя радкі, якія, здавалася, выяўлялі найперш маладую няўрымслівасць: «...Я маю права ўсё закрэсліць і потым нанава пачаць». Пазней аказалася, што яны былі не проста юнацкім парываннем, але і ўжо ўсвядомленым імкненнем. Шляхі і пошукі ўжо тады вабілі Алеся Разанава.

Пругкае, выразнае слова. Падсветка настраёвага думкай, энергія характару, умельства

ўводзіць у эмоцыю вопыт (прычым так, што і кніжнае становіцца жыццёвым). Актыўнасць пошукаў, «праграмаванне» шляху... Усё гэта былі адзнакі яркага таленту.

Першыя кнігі паэта — «Адраджэнне» (1970) і «Назаўжды» (1974) — раскрылі свет таго пакалення, якое нарадзілася і вырасла пасля вайны. Раскаванасць пачуццяў, асаблівая чуйнасць да ўсіх галасоў жыцця, да гукаў, колераў, свабодных і натуральных праяў навакольнай існасці стала адзнакай не толькі твораў Разанава, але і іншых паэтаў яго пакалення. Але мала адчуць унутраную мелодыю жыцця. Каб спасцігнуць яе глыбіню і красу, неабходна прылучыцца да лёсаў людзей, вызначыць сваё месца ў справах, пошуках і здзяйсненнях часу.

Алесь Разанаў пісаў пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці (паэма «Назаўжды»), пра дзекабрыстаў і Кастуся Каліноўскага, пра безымянных герояў, якія ішлі на гібель дзеля высокай мэты. Ён паэтызаваў грамадзянскі неспакой, мэ́лённую чалавечую турботу, апанаванасць мэтай і дзеяннем. Пры гэтым ён імкнуўся да напоўненасці, змабілізаванасці як у жыццёвай справе («І немагчыма ўжо назад, і немагчыма ўжо на месцы»), так і ў самім слове. Ён спрасоўваў радкі стылявымі і гукавымі паўторамі, уключаў словы ў шматмерныя асацыятыўныя сувязі, нарошчваў інтэлектуальна-філасофскі змест, пашыраў абсягі захопу быцця. Усюды ў творах адчувалася ўнутранае напружанне, жаданне зразумець свет у складанасці, супярэчнасцях, бязмежжы жыццёва-духоўных праяў.

Так прыйшоў Алесь Разанаў да сваёй кнігі «Каардынаты быцця» (1976) — кнігі цікавай і спрэчнай, шырока пошукавай, нязвыклай па стылявому ладу і вобразнаму мысленню. Кры-

тыкі ацэньвалі яе па-рознаму. Адны — ухвалялі, другія — выказвалі досыць сярдзітыя заўвагі. Кожны бок меў сваю рацыю. Але, думаецца, тут важна засцерагацца катэгарычнасці. Творы Разанава вымагаюць не аднаго прачытання. Пры новым «заходзе» ў іх адкрываюцца новыя ўнутраныя сувязі, пашыраецца і паглыбляецца наша ўяўленне аб тым, што хацеў сказаць і што сказаў паэт.

Зменлівае, поўнае адкрытага і неразгаданага сэнсу быццё чалавека ўвесь час адкрываецца паэту то ў сімвалічна-прарочых рысах, то ў драматычных канфліктах бытавога і духоўнага, часовага і вечнага, неабсяжнай бясконцасці і жыццёвых абмежаванняў.

Свет чалавечай свядомасці раскрываецца ў кнігах Разанава «Каардынаты быцця» і «Шлях-360» як велізарны супярэчлівы кругаварот сэнсу і бяссэнсіцы, гармоніі і хаосу, вечнасці і мімаходнасці, духоўнага і бездухоўнага. Чалавек, пастаўлены ў цэнтр гэтага свету, уступае ў драматычнае супрацьборства з абставінамі. Ён не становіцца пасіўнай ахвярай лёсу, а ўзвышаецца як носьбіт важных духоўных, гуманістычных якасцей. Сціплая і простая цётка Тэкля з «Паэмы сланечніка» (у кнізе «Каардынаты быцця»), вечная працаўніца, якая жыла «маўкліва і безадказна», «не прыкмячалася сваёй прысутнасцю, адсутнасцю прыкмячалася», вынесла вялікія нягоды вайны і нялёгка жыла ў пасляваенны час,— паўстае асветленай дабратой, шчодрасцю, працавітасцю, выключнай жыццетрываласцю, умельствам жыць дзеля другіх: «ашчаджала не для сябе, памнажала не для сябе, раўнавала не для сябе: проста так — для зямлі... для расліны... для статка... для хаты... для нас...». Яна пакідае ў жыцці незабыўны след. І Францішак Ба-

гушэвіч, слаўны сын свайго народа («Паэма каментарыю», змешчаная ў гэтай кнізе) таксама «ашчаджае не для сябе», пакутуе з-за «недастатковасці сказанага», бо жыве і піша дзеля народнага абуджэння, дзеля вялікай будучыні роднага краю. Светлыя постаці, паказаныя натхнёна, пранікліва, у душэўначалавечым багацці.

Чытаем «Паэму пераадолення», «Паэму палявання», «Паэму каментарыю», «Паэму рэха», «Паэму гарачага лісця» і іншыя творы ў гэтай кнізе. Адчуваецца іх неардынарнасць, заглыбленая шматзначнасць, аб'ёмнасць перажыванняў. Духоўныя сітуацыі ў іх могуць здацца «межавымі», нават тупіковымі: вялікі боль, незваротныя страты... Так, паэт піша пра драматызм і супярэчнасці быцця. Але ён не адступае перад абставінамі. Чуюцца сіла волі, непрымірымасць з усімі стратамі, нязгода з усім благім. Паэтызуецца прыгожае, светлае. У канчатковым выніку гэта паэзія мае характар актыўнага жыццесцвярджэння.

Для стылю паэта характэрная насычаная пераноснымі сэнсамі і пераклічкамі значэнняў метафарычнасць. Да асноўных тэм і праблем далучаюцца парасткі і атожылкі новых перажыванняў. Адбываецца ўзаемапранікненне думак, перажыванняў, вобразаў — з рухам наперад і вяртаннем назад, з недагаворанасцю, з нечаканымі завіхрэннямі пачуцця і думкі:

Існуем знікаючы...
Маналогі
наслойваюцца, пераплятаюцца
і пранікаюць адзін у адзін,
быццам у лесе «я» адзываецца «я»...
Сем колераў у адным,
змясціўшыся, не змяшчаюцца,

і не ўмяшчаецца наша бясконцасць
у карані і галіны...

Таму чытаць гэтыя творы нялёгка; перажыванні, месцамі сфармуляваныя з узнёслай крылатасцю, часам губляюць вобразна-асацыятыўныя сувязі са зместам твора. Узнікае пагроза адвольнасці, знарокавасці. Гэта, відаць, адчувае і сам паэт, бо галоўнае для яго — як сведчаць творы — моцнае пачуццё, якое шукае глыбіні і змястоўнасці. Паэт шукае дзеля гэтага, дзеля паўнаты і аб'ёмнасці, дзеля высокіх грамадскіх, духоўных ідэалаў, якія ў паэзіі патрабуюць адпаведнага часу ўвасаблення.

Паэт вядзе няўрымслівы, наватарскі пошук. Ён абапіраецца на вялікі вопыт сусветнага мастацтва. Мы ўбачым у яго творах і баладны лад, і сучасную жанрава-стылявую раскаванасць, і асаблівую ёмістасць усходніх танка і хокку, і ўласцівыя сюррэалізму сродкі і прыёмы пісьма.

Ці апраўданы гэты пошук? Ці патрэбен ён нашай паэзіі? Стан сучаснай паэзіі ў многім выклікае незадаволенасць чытачоў: занадта многа лірычнага гладкапісу, вар'іравання адных і тых жа матываў, выкарыстання гатовых узораў. Чытачы чакаюць адкрыццяў ад тых паэтаў, якія шукаюць новых форм паэтычнага ўвасаблення. Таму і паэзія Разанава выклікае асаблівую цікавасць.

А што, калі перад намі паэтычны эксперымент? Але хто возьмецца сцвярджаць, што творы Разанава — толькі эксперымент. Перачытваем ужо згаданую «Паэму сланечніка». Якімі патрэбнымі, змястоўнымі становяцца ў ёй інтанацыйныя перабіўкі, нечаканыя зблізкэнні значэнняў, «сюррэалістычныя» асацыяцыі.

Разанаў імкнецца да новага ўзроўню мастацкай выразнасці, які б ушчыльняў усю духоўную, эмацыянальную інфармацыю. Ён хоча, каб кожны вобраз, выпраменьваючы свой сэнс, перагукаўся адразу з усімі іншымі, устанаўліваў бясконцае мноства новых і патрэбных сувязяў. Складаная, цяжкая задача!

Але мы чытаем паэму «Упоцемках, з ліхтаром» і сэрцам адчуваем: сыноўняе пачуццё выказана так, што вымаўляецца адразу і любоў да маці, і многія ўспаміны, і адчуванне абрыву сувязяў, велізарнага спустошэння, што ўзнікае пры незваротнай страце: «Мама — уберагала, маму — не ўберагу... За рамаю — год пярэсты: ветах вісіць труной... Якіх не хапіла вестак?! Ад мамы... Пра маму...— адной».

Не, гэта не эксперымент, гэта сапраўдная балючая споведзь. Але ж мастацтва сацыялістычнага рэалізму не цураецца эксперыменту, калі ён абумоўлены патрэбамі часу. Колькі абвінавачванняў («архаічна!», «цьмяна!», «незразумела!» і яшчэ больш грозна) сыпалася ў свой час на цудоўнага беларускага паэта 30-х гадоў Уладзіміра Хадыку (у якога, дарэчы, сяму-таму вучыўся і Разанаў). Ён варушыў розныя лексічныя пласты, шукаў зместу ў недагаворанасці, незвычайна густа метафарызаваў з'явы. Праз гады выявілася: гэта быў плённы пошук, перспектыўны для ўсёй беларускай паэзіі. У творах Хадыкі ярка адбілася ўсеагульнае памкненне да сацыялізма, і самі метафары паэта перадавалі змены і рух жыцця да новага, незвычайнага, светлага.

У калектыўнай кнізе «Паэзія сацыялізма. Мастацкія адкрыцці паэзіі сацыялістычнага рэалізму» (М., 1969, с. 6) са спасылкаю на выдатнейшых прагрэсіўных майстроў еўрапейскай паэзіі XX стагоддзя (а сярод іх — Элюар, Воль-

кер, Іожэф, Бранеўскі) гаворыцца: «Сацыялістычнай паэзіі сённяшняга дня часам не чужы нервовы напал экспрэсіянізму або дзёрзкая слоўна-вобразная асацыятыўнасць сюррэалізму...»

Будзем спадзявацца, што яны не здадуцца чужымі чытачам і ў творах Алеся Разанава, які шукае свайго шляху дзеля змястоўнага слова аб жыцці і часе. Драматычная, актыўна жыццесцвярджальная паэзія Алеся Разанава па-свойму пранікае ў свет сучасніка. І лепшыя творы паэта ўваходзяць у душу, становяцца сапраўднай — чалавечнай і змястоўнай — паэзіяй.

ВАРЛЕН БЕЧЫК

## ЗМЕСТ

Разанаў А.

Р 17 Шлях-360: Паэмы і вершы.— Мн.: Маст. літ., 1981,— 110 с., іл.

45 к.

У зборніку «Шлях-360», назва якога сімвалізуе шлях жыцця, кругазвароту, паэмы перамяжоўваюцца з мініяцюрамі — квантэмамі, рэчаіснае насычаецца элементамі фантастыкі, адкрыцці эпохі НТР пераклікаюцца са старажытнымі светапоглянымі сістэмамі, а «жыціі» гістарычных асоб з біяграфіямі сучаснікаў.

ББК 84 Бел 7

Бел 2

Р $\frac{70403-112}{М\ 302(05)-81}$ без аб'явы

Александр Степанович
РЯЗАНОВ

ПУТЬ-360

*Поэмы и стихи*

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Рэдактар Р. М. Яўсееў*
*Мастак Г. С. Скрыпнічэнка*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічныя рэдактары*
*Т. М. Сокал, А. Б. Барадзіна*
*Карэктар Я. Ф. Харко*

ІБ № 1600

Здадзена ў набор 10.05.81. Падп. да друку 9.07.81. АТ 07585. Фармат 75×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,37. Ум. фарб.-адб. 4,53. Ул.-выд. арк. 4,20. Тыраж 7000 экз. Зак. 1574.
Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

